12 ліпеня 2019 | № 26 (637)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**Дэкамунізацыя па-ватыканску**

Стар. 8

4
**АНЕКСАВАНЫ КРЫМ НЕЧЫМ ПАДОБНЫ НА БЕЛАРУСЬ**

По цэнах на паслугі і харчы Крым спаборнічае з Масквой ці нават яе апярэджвае. Расійскія пенсіі і заробкі з'ела інфляцыя, а цэны растуць ледзь не ў геаметрычнай прагрэсіі. На гэта наракае, бадай, кожны, нават прыхільнік Пуціна

5
**ПРАЦОЎНЫ КОДЭКС ПЕРАТВОРЫЦЬ РАБОТНІКАЎ У «ЧАСОВА ЗАНЯТЫХ»?**

Цяпер не на ўзроўні дэкрэтаў, але на ўзроўні Працоўнага кодэкса замацавана, што ўсіх работнікаў пераводзяць на тэрміновыя ўмовы найму, і Беларусь становіцца краінай часовай занятасці



6–7
**«МЫ ГАТОВЫЯ БЫЛІ АТРУЦІЦЦА, КАЛІ Б НЕ АТРЫМАЛІ БЕЛАРУСКІЯ ВІЗЫ»**

Тэма бежанцаў не адносілася да самых актуальных у Беларусі, пакуль у 2016 годзе ў Брэст не паліліся патокі ўцекачоў з Паўночнага Каўказу



10–11
**ПА СЛЯДАХ РАМУАЛЬДА ТРАЎГУТА**

У доме Арыядны Тэлеман захоўваецца выява абраза Маці Божай Вастрабрамскай, якой Траўгут у 1863 годзе асвячаў Кобрынскі паўстанцкі атрад

# За Шуневіча выбачалася Качанава, а хто за Раўкова?



Алесь КІРКЕВІЧ

**Трагедыя 3 ліпеня, калі падчас разрыву марціраў, з якіх павінен быў стрэліць салют, загінула пенсіянерка, а яшчэ некалькі мінчукоў атрымалі траўмы, выклікала новую хвалю народнага «антымілітарызму» ды недаверу да Міністэрства абароны. Ці справядліва?**

Гэтым разам дзяржструктуры зрэагавалі даволі аператыўна. Мінабароны, прынамсі, не адважылася ўсё адмаўляць, а Следчы камітэт аператыўна затрымаў двух інжынераў з Расіі, якія адказвалі за тыя «праклятыя» салюты. Разам з тым, сярод людзей адразу пайшла пагалоска, маўляў, затрыманыя — усяго толькі «стрэлачнікі», на якіх максімальна зручна перакінуць увесь груз адказнасці. Гучалі нават галасы пра «карупцыйныя схемы» па закупцы піратэхнікі, дый наогул, чаму вышэйшыя вайсковыя чыны пасля такога здарэння не падаюць у адстаўку?

Выглядае, што ахвяры 3 ліпеня — чарговы каменьчык у капілку калектыўнага недаверу да беларускіх вайскоўцаў, якіх зараз не лае толькі лянівы. І суіцыды ў войску, і закон пра скарачэнне адтэрміновак ад службы, і раструшчаны сталічны асфальт… Добра, прынамсі, што абышлося без збітых танкамі ліхтароў, як тое было ў 2017-м (і сёлета танк па мокрым асфальце ледзьве не ўехаў у натоўп).

Атрымліваецца парадаксальная сітуацыя: з аднаго боку, грамадскасць занепакоеная знешнепалітычнай сітуацыяй і захаваннем суверэнітэту на фоне гарачай абстаноўкі ў рэгіёне, але з іншага — пляжыць сваіх жа вайскоўцаў, што акурат і павінны гарантаваць мір і спакой.

Варта ўсё ж дадаць, што парад на 3 ліпеня, як і на 9 траўня, — гэта не толькі ініцыятыва Мінабароны, але і неад'емная частка дзяржаўнай ідэалогіі. Роўна як і Дажынкі — гэта не толькі пра сельскую гаспадарку, а лядовыя палацы і Еўрапейскія гульні — не толькі пра спорт. Усё гэта — палітыка. Па-першае, вайсковы парад павінен дэманстраваць моц і непахіснасць айчыннай вайсковай машыны, па-другое — гэта, як дажынкі з хакейнымі турнірамі, частка амаль няспынных гулянняў з любой нагоды, якімі ўлада «корміць» электарат пачынаючы з 1990-х гадоў. Тут і шашлык, і недарагое піва, і Саладуха, і салют — усё адным пакетам.

Паводле нейкай злой іроніі, падобныя гулянні перыядычна заканчваюцца бядою: як тое было з цісканінай на Нямізе ў 1999-м, з выбухамі 3 ліпеня 2008 года, як застаецца і зараз. Разам з тым, упэўнены, колькі б падобных прэцэдэнтаў не здарылася, і салюты, і шашлыкі з півам, і Саладуха на сцэне — усё гэта будзе жыць далей. Занадта шчыльна падобны жанр зросся з рэчаіснасцю, занадта прызвычаіліся да яго людзі, роўна як і да «нязменнага лідара» на першай пасадзе. А вось галасы пра вынас салютаў за межы сталіцы альбо нават пра замену танкаў на вуліцах адно самалётамі ў небе (якія ані асфальту, ані аблокам не шкодзяць) так і застануцца не пачутымі.

З іншага боку, давайце шчыра: трагічныя сітуацыі, якія нельга прадказаць ды прадухіліць, здараюцца па ўсім свеце. У Парыжы згарэў Нотр-



Фота www.svaboda.org

Дам падчас рамонту, але гэта не азначае, што трэба перастаць рамантаваць старадаўнія саборы. На дарогах штодня здараецца безліч ДТЗ, у якіх гінуць людзі, але гэта не азначае, што трэба ўсім перасесці на ровары. У кожнай арміі краінаў СНД ёсць дзедаўшчына, як і ў нас: яна была да Раўкова, мяркую, застанецца і пасля яго. Справа не ў канкрэтным надзвычайным здарэнні, але ў стаўленні.

У нашым выпадку маркёрам стаўлення ёсць адкрытасць дзяржаўных ведамстваў да грамадзянаў, уменне прызнаваць свае памылкі ды весці дыялог. І з гэтым пакуль цяжкавата. Зрэшты, а чаго чакаць ад дзяржапарату, які фактычна заледзянеў за апошнія 25 гадоў, ператварыўшыся ў халодны маналіт? У такой сітуацыі, што цікава, нават прызнанне тым жа Мінабароны самога факту здарэння мы бачым як «крок наперад».

Усё спазнаецца ў параўнанні. Раней нам нейкі факт падаваўся ледзьве не казачным, а зараз мы яго бачым на свае вочы і пляскаем у далоні. Прабачэнні Качанавай перад цыганамі пасля «пагрому ў Магілёве» і наступная адстаўка Шуневіча. Уладзімір Макей, які ў вышыванцы прапагандуе беларускую мову. Затрыманне ўласніка акумулятарнага завода ў Брэсце, будаўніцтва якога выклікала працяглыя пратэсты. Урэшце, скульптура гарадавога, да якой (надзіва!) нарэшце можна дакранацца і нават рабіць фота. З чаго б гэта ўсё раптам?

Думаю, што ўлада сапраўды ўзяла вектар… не, пакуль не на дыялог. Вектар на тое, каб прыслухоўвацца і надалей рабіць свае высновы і крокі без удзелу грамадскасці. Зараз яны, прынамсі, слухаюць. Чаму? Бо не зацікаўленыя напярэдадні выбараў (ды, зноў жа, улічваючы знешнепалітычныя фактары) у дарэмнай эскалацыі канфлікту. Там, дзе магчыма, згладжваюць вастрыню, а часам і выбачаюцца, калі сітуацыя, як з тымі няшчаснымі цыганамі, выглядае зусім па-дзікунску.

Што ж з салютам і Мінабароны? Упэўнены, што касметычныя меры будуць прынятыя: прынамсі, бяспечную адлегласць знаходжання людзей ад марціры павялічаць з 500 да 1000 метраў. Магчыма, за ведамства Раўкова ў сям'і загінулай жанчыны нават нехта папросіць прабачэння (можа які чыноўнік з Мінгарвыканкаму?), а можа — абмяжуюцца матэрыяльнай кампенсацыяй. Так ці інакш, ані парады, ані чарговыя спартовыя спаборніцтвы ці Дажынкі ад нас нікуды не падзенуцца. І роўна праз год тыя самыя танкі будуць трушчыць ужо новы асфальт, а салюты разарвуць вечаровае неба па-над сталіцай. Добра, каб толькі неба…

А што, калі зноў ахвяры? «Не забывайце, — скажуць нам, — запаветы сталінскіх маршалаў-вызваліцеляў: ахвяры другасныя, галоўнае — перамога!»

# Эрганоміка павольнай асфіксіі

Міхась ЯНЧУК

**У тыя далёкія часы, калі была прапанаваная і задзейнічаная сістэма ўзаемадзеяння ўлады і апазіцыі ў Беларусі аўтарства Ханса-Георга Віка, ніхто і ўявіць сабе не мог, што нашы ўсходнія заклятыя сябры будуць сюды не чарнамырдзіных дасылаць, каб адмазаць ад немінучага імпічменту, а батальённыя групы пскоўскіх дэсантнікаў у суседнія краіны з поўнаю баявою экіпіроўкаю і загадам страляць па ўсім, што рухаецца.**

Сёння ўжо ў краіне мала хто і памятае, хто ж такі быў гэты Ханс-Георг Вік, і як ён намагаўся — кіруючыся найлепшымі матывамі — хоць неяк выправіць унутраную сітуацыю пасля разбурэння самога падмурку законнасці і правапарадку дзяржаўным пераваротам, здзейсненым Аляксандрам Лукашэнкам і ягонымі падначаленымі, большасці якіх ужо нават і ў краіне сёння няма. Альбо і ў жывых — па розных прычынах, дарэчы.

Таму крытыкаваць гэтую сістэму з пазіцыі дня сённяшняга — звышлёгка, бо сёння яна сябе зжыла, паколькі не ўлічвала фактару пагрозы, што ўзнік ужо пасля яе стварэння і набіраў сілу на працягу шматлікіх гадоў. Як ігнаравалі яе і ўсе дзеянні дзяржавы за гэты ж перыяд. Затое на працягу гэтых жа гадоў яна стварала для многіх у нашай краіне парадаксальна вельмі зручную сітуацыю — існаванне ў шэрай зоне двайной надкантрольнасці ў сітуацыі адноснай бяспекі. Адноснай — падкрэсліваю, бо сам перажыў не адзін гэбэшныператрус.

Палітычныя партыі і вельмі значная частка грамадскіх арганізацыяў у рамках ціхага гешэфту плану Віка займаліся толькі той часткай павесткі, якая наўпрост не пагражала далейшаму існаванню палітычнага ладу, што склаўся ў Беларусі (склаўся — зручнае слова!), а мясцовы рэжым прыкрываў вочы на атрыманне гэтымі партыямі і арганізацыямі патаемнага замежнага фінансавання і прасаваў іх толькі згодна з графікам мендраў найвышэйшай дзяржаўнай волі, падпарадкаваных у асноўным электаральнаму цыклу. Прэзідэнцкаму ж натуральна, бо такой арганізацыі, як парламент, у традыцыйным значэнні ў Беларусі не назіраецца ўжо даўно.

І я сам быў часткай гэтай сістэмы — пра якую шчыра думаў у ключы «кропля точыць камень», «трывалыя змены не могуць быць рэвалюцыйнымі ў такіх закасненых краінах, як наша» і «альбо падзішах пампэ, альбо асёл здохне»...

Стратэгія павольнага дрэнажу пасіянарыяў з асноўнай плыні змагання за незалежнасць і галоўную свабоду — свабоду ад дыктатуры — аказалася супервыйгрышнай для рэжыму. І прывяла да таго, што пазасістэмнае палітычнае жыццё краіны ператварылася амаль у нішто. А чорны кабель цяпер амаль адбелены ў вачах знешніх партнёраў рукамі самой колішняй апазіцыі.

І мы раптам апынуліся ў цалкам новай сітуацыі, калі ўлада — тая самая, што мела «пакрысе эвалюцыянаваць» — палепшылася дзякуючы нашым высілкам настолькі, што рыхтуецца да здачы дзяржаўнага суверэнітэту разам з усімі намі ў якасці пасіўнага перамоўнага капіталу на размовах з крамлёўцамі пры поўным нежаданні Захаду «паміраць за Мінск» нават у пераносным сэнсе.

Мы ж — тыя, для каго незалежнасць і суверэнітэт Беларусі з'яўляецца сапраўднай каштоўнасцю, рэальна засталіся сёння адны. І ніхто звонку — з аніякага накірунку — нам дапамагчы не ў стане. Тое, што мы можам тут і цяпер — гэта хутка данесці да як мага найвялікшай колькасці суайчыннікаў старую праўду — той, што прадае свабоду за каўбасу, вельмі хутка не будуць мець ані першага, ані другога. Бо не з'яўляецца суб'ектам палітыкі ва ўласнай краіне, а толькі яе маўклівым аб'ектам.

Новы тып дзяржавы, які нам майструюць бабічы з іхнімі мясцовымі памагатымі, нават не мае вялікай патрэбы далей маскіравацца пад беларускую — гэта будзе проста паліцэйская сістэма на базе кітайскіх лічбавых тэхналогій і ардынскіх тэхналогій падаўлення любога супраціву тых народаў, якія мелі гістарычнае няшчасце патрапіць пад імперскую раздачу.

Зірніце на маніторынгі актыўнасці агенцтваў мяккай сілы РФ на тэрыторыі Беларусі — працэс селекцыі кандыдатаў у будучую акупацыйную адміністрацыю новай федэральнай акругі ўжо запушчаны і праце напоўніцу. А асабліва ахвотныя самі бегаюць у расійскую амбасаду і прапануюць свае паслугі ў рознай якасці — ім да лямпачкі, каму служыць, абы грошык капаў на новы «Лексус».

Ды што там казаць, паглядзіце на лёс крымскіх татараў пад расійскай акупацыяй сёння — гэта магчымы лёс беларусаў заўтра. Калі мы толькі не здолеем знайсці ў сабе сілы пайсці ўкраінскім шляхам, каб не даць скрасці ў сваіх дзяцей і ўнукаў найвялікшыя каштоўнасці — нацыянальную дзяржаву, мову і чалавечую годнасць. Ці ўсё ж каўбаса?

Вы каштавалі расійскую каўбасу?

# Падзеі, якія перавярнулі жыццё

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Сёлета спаўняецца 30 гадоў з моманту ўсталявання Крыжа Пакуты ў Курапатах. З гэтай нагоды ў Мінску адкрылася выстава фотаздымкаў Уладзіміра Сапагова, чыя камера зафіксавала гэтую падзею. Пасля смерці аўтара арыгіналы здымкаў апынуліся на сметніку, і негатывы, якія адлюстроўвалі нашу найноўшую гісторыю, цудам удалося выратаваць.**

Выстава «Курапаты, Дзяды–1989 (30-я ўгодкі шэсця і ўсталявання Крыжа Пакуты)» адкрылася вершам Анатоля Сыса «Адпусціце мяне, Курапаты». Сыс, як і сённяшні кіраўнік праваабарончага цэнтру «Вясна» Алесь Бяляцкі, удзельнічаў у моладзевым літаратурным аб'яднанні «Тутэйшыя». Менавіта яны падавалі заяўку на першае шэсце на Дзяды ў Курапаты ў 1988 годзе.

— Улетку 1988 года адбылося першае шэсце ў Курапаты. Гэта была поўная нечаканасць для ўладаў, і нашая праходка не была забароненая. І пасля гэтага, пасля артыкула ў «ЛіМе» стала зразумела, што гэтае месца — моцны ўдар для тагачаснай улады, якая базавалася на камуністычнай ідэалогіі, — узгадвае Алесь Бяляцкі.

Увосень 1988 года адбыліся гістарычныя Дзяды каля Маскоўскіх могілак, ісці ў Курапаты тады не збіраліся. Бяляцкага, які быў заяўнікам акцыі, затрымалі, і яму здавалася, што гэта — канец свету. Але людзі самаарганізаваліся, і гэта дало моцны штуршок для развіцця дэмакратычнага руху ў краіне: былі створаныя «Мартыралог Беларусі», сакратарыят БНФ «Адраджэньне».

— Ніхто не дзяліўся на правых і левых, у людзей была адна мэта — змяніць гэты камуністычны лад і правесці незалежныя выбары, — зазначае праваабаронца.

Паводле яго словаў, Крыж Пакуты, які ўстанавілі ў Курапатах праз год, быў сімвалам пэўнай маральнай перамогі і памяці пра людзей, якія там ляжалі, і пра той злачынны перыяд.

Мастацкі выгляд крыжа прыдумаў мастак Алесь Марачкін, які дадаў да тысячагадовага хрысціянскага сімвалу цярновы вянец з калючага дроту.

— Таемна ля кальцавой дарогі у майстэрні хлопцы рабілі гэты крыж з вялікага дрэва. Гэты эскіз і цяпер у мяне захоўваецца, — распавёў мастак.

Крыж Пакуты, мяняючыся, неслі каля 60-ці чалавек. Адным з іх быў праваабаронца Валер Шчукін. Многія карыстальнікі, пабачыўшы ў сеціве фотаздымкі з ім, сумняваліся, што гэта ён — камуніст не мог несці крыж.

— Калі я даведаўся пра тое, што робіцца ў Курапатах, мне стала ніякавата. Таму я нёс крыж. Да мяне потым было шмат прэтэнзій з боку партыі, але я ўсё жыццё раблю тое, што лічу патрэбным. Я ўпершыню прыйшоў у Курапаты з гэтым крыжам. Я быў шакаваны, і гэта паўплывала на мяне ў далейшым, — прызнаўся Валер Шчукін.

Паводле яго, крыжалом, які здарыўся ўвесну, — гэта дзікунства ўладаў, якое нават для яго, атэіста, непрымальнае.

Гледзячы на шматтысячнае шэсце, узнікае пытанне: «Дзе цяпер усе гэтыя людзі з фотаздымкаў?» Некаторыя з іх, як Зміцер Марчук, і сёння стаяць на абароне Курапатаў. Аб'ектыў фатографа зафіксаваў Змітра 20-гадовым хлопцам з павязкай на галаве, які прамаўляе на мітынгу побач з Зянонам Пазьняком.

— Гэта быў самы шчаслівы перыяд майго жыцця. Мы лёталі акрыленыя ад таго, што ў нас ёсць культура, мова, — кажа Зміцер. — Мне сказалі, што ёсць такое свята — Дзяды, — і параілі з'ездзіць на Маскоўскія могілкі. І тады я атрымаў «хрышчэнне» — нас труцілі газам «чаромха». Тады ж я далучыўся да «Талакі», мы ездзілі па раскопах па Беларусі, развешвалі па заводзе ўлёткі. І наш завод стаў адным з самых першых баставаць — потым ужо падняліся МТЗ, МАЗ. Тады мяне папрасілі звольніцца...

Сёння Зміцер Марчук — з тых, хто штодня прыходзіць у Курапаты на малітву а 19-й гадзіне.

Арганізатарка выставы Паліна Сцепаненка распавяла, што летам 1988 года ёй было 20 гадоў і яна працавала з Пазьняком у археалагічнай экспедыцыі ў Лоску.

— Па дарозе адтуль мы заехалі ў Курапаты. Там праходзіла эксгумацыя, якой кіраваў Мікола Крывальцэвіч. Я бачыла тыя ямы, з якіх даставалі парэшткі. З адной з ямаў караскалася мыш, я хацела ёй дапамагчы, працягвала галінку, але нічога не атрымлівалася — настолькі яма была глыбокая. Бачыла і парэшткі яшчэ не такія даўнія — можна было адрозніць мужчын ад жанчын. І лёс гэтых парэшткаў дасюль невядомы.

Гэта не першае экспанаванне фотаздымкаў Уладзіміра Сапагова. Шэраг выставаў адбыўся ў 2015–2016 гадах: да 30-годдзя «Талакі», да святкавання Аршанскай бітвы, была выстава ў Чарнігаве, а летась — у Вільні да 100-годдзя БНР.

Экспазіцыю можна ўбачыць на пляцоўцы «Тэрыторыя правоў» (вул. Ложынская, 16 — 404).

# Аштрафавалі за расцяжку над Нёманам

**Суд Кастрычніцкага раёна Гродна не стаў на бок гродзенскага гісторыка Мечыслава Супрона, які 18 чэрвеня выйшаў на мост праз Нёман і вывесіў расцяжку з надпісам «Нёман атручаны лідскім ЖКГ».**

На пасяджэнні 10 ліпеня ён атрымаў штраф за парушэнне часткі 1 артыкула 23.34 КаАП (правядзенне несанкцыянаванага масавага мерапрыемства), паведамляе «Гарадзенская Вясна». Каб падтрымаць Мечыслава, у суд прыйшлі яго сябры, праваабаронцы і журналісты. Вёў працэс суддзя Руслан Хіхол.

На судзе Мечыслаў Супрон прадставіў медыцынскія даведкі са Скурвендыспансера Гродна і з паліклінікі, якія сведчылі пра тое, што пасля купання ў Дзітве і ён, і яго сын вымушаны былі звярнуцца да медыкаў.

Таксама Мечыслаў прадставіў дакументы, якія сведчаць, што падчас праверкі ў Лідскім ЖКГ было выяўлена, што ачышчальныя прылады знасіліся і састарэлі, і ў рэчку сапраўды пайшлі выкіды з падвышаным утрыманнем калію, азоту і фосфару.

Але ўсё гэта было пазней, пасля таго, як актывісты Бярозаўкі былі вымушаныя пайсці на публічную акцыю і былі пакараныя за гэта. І сам Мечыслаў Супрон быў вымушаны пайсці на падобную акцыю, каб звярнуць увагу грамадства і ўладаў на экалагічную праблему. Да гэтага ж атручванне вады і лідскімі ўладамі, і дзяржаўнымі структурамі, што мусяць сачыць за экалогіяй, не толькі замоўчвалася, але і абвяргалася. Так, масавы мор рыбы ў Дзітве, на які звярнулі ўвагу мясцовыя жыхары, папросту тлумачыўся анамальнай спёкай.

«Я хацеў папярэдзіць людзей, што купацца ў Нёмане і Дзітве небяспечна для здароўя, а можа і жыцця. Бо я сам і мой сын пацярпелі ад такога купання, пра што ёсць медыцынскія сведчанні», — заявіў у судзе сам Мечыслаў Супрон.

«Я не падаваў заяўкі на пікет у выканкам таму, што адказу прыйшлося б чакаць больш двух тыдняў. А тут кожная хвіліна дарагая. Бо маглі пацярпець людзі, якія не ведалі пра небяспеку і ў гэтыя спякотныя дні ішлі купацца», — адказаў гісторык на пытанне суддзі пра тое, чаму ён не звярнуўся ў выканкам па дазвол на правядзенне мерапрыемства.

У выніку Мечыслаў Супрон быў прызнаны вінаватым і пакараны штрафам у пяць базавых велічынь (127,5 рублёў).

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Чым правініліся ўніяты?

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Агульнавядомы прынцып «падзяляй і ўладар» пасляхова выкарыстоўваецца ва ўсім свеце ўжо шмат стагоддзяў. Беларусь — не выключэнне: працяглы час дзяржава спрабуе сутыкаць ілбамі як прадстаўнікоў розных палітычна-сацыяльных групаў, так і розных хрысціянскіх канфесій.**



Фота www.intex-press.by

Упершыню за 24 гады беларускія грэка-каталікі (уніяты) не змогуць зладзіць традыцыйную пілігрымку з Полацка ў Віцебск. Пілігрымка павінна была быць юбілейнай, аднак усё ўперлася ў нядаўнія змены ў заканадаўства аб масавых мерапрыемствах. У выніку за 100-кіламетровы хросны ход ад Уваскрасенскага храма ў Віцебску да Сафійскага сабора ў Полацку, дзе ў 1705 годзе ад рук Пятра І пакутніцкай смерцю загінулі пяцёра манахаў, давялося б заплаціць 3000 рублёў адной толькі міліцыі. А яшчэ патрэбна аплачваць паслугі медыкаў і камунальнікаў.

Такіх грошай вернікі не знайшлі, дый за што плаціць? 24 гады хросны ход пасляхова адбываўся, а на 25-ты шэсцю раптам спатрэбілася ахова міліцыі? Тым не менш, ісці насуперак закону ніхто не рызыкнуў, а праводзіць пілігрымку без аховы арганізатарам не дазволілі. Інтэрнэт-супольнасць зашумела, абвінавачваючы ўлады ў дыскрымінацыі па рэлігійным прынцыпе. Тым больш, што днямі скончыліся святочныя набажэнствы ў Будславе, куды скіроўваліся і пешыя, і роварныя каталіцкія пілігрымкі, і грошай ні з каго не бралі.

Выказваліся розныя версіі — у тым ліку, што да адмены пілігрымкі мае дачыненне РПЦ МП, якой вельмі ўжо муляюць вока грэка-каталікі, а таксама што гэта — адказ улады на прынцыповую пазіцыю грэка-каталікоў па рэстарацыі і зносу крыжоў у Курапатах. На жаль, ніякіх моцных галасоў у абарону грэка-каталікоў ад іншых хрысціянскіх канфесій не прагучала. Таму ў гэтым годзе вернікам давядзецца абысціся без пілігрымкі, а ў наступным святары паспрабуюць унесці паломніцтва ў гадавы план мерапрыемстваў, што праводзяцца пры падтрымцы дзяржавы — тады, як і ў Будславе, плаціць міліцыі, медыкам і камунальнікам не давядзецца.

А вось перашкодзіць паломніцтву кіраўніка Беларусі ў святыя для праваслаўных мясціны на Валааме не можа ніхто. Наадварот, прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін арганізуе для яго персанальную авіяпілігрымку. Не зусім зразумела, чаму для перамоваў пра інтэграцыю абраная гэта выспа на Ладажскім возеры, калі першапачаткова працоўная сустрэча мусіла адбыцца ў Санкт-Пецярбургу. Меркавана, у гэты час у Валаамскім мужчынскім манастыры з візітам будзе патрыярх Кірыл, які, магчыма, прыме ўдзел у сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў.

Калі Пуцін спадзяецца, што патрыярх зможа нейкім чынам паўплываць на Лукашэнку, гэтыя спадзевы, найхутчэй, дарэмныя — Аляксандр Лукашэнка ніколі не выяўляў асаблівай прыхільнасці да кіраўніка расійскай праваслаўнай царквы. Акрамя гэтага, правадыр Беларусі загадзя акрэсліў, што не збіраецца прымаць нейкіх важных рашэнняў на Валааме, а едзе туды проста каб пабыць. З турыстычнымі, так бы мовіць, мэтамі.

**Падаецца, ужо кожнае дзіця ведае, што эканамістаў і бухгалтараў у нас зашмат, але айчынныя ўніверсітэты працягваюць аграмадныя наборы на гэтыя спецыяльнасці**

Новы рэкорд пастаўлены ў Беларусі — па недахопе работнікаў. У рэспубліканскім банку вакансій зарэгістравана ажно больш за 93 тысячы вольных працоўных месца. Яшчэ ў траўні лічба трошкі перакрочыла 80 тысяч. Найбольш дэфіцыт у лекарах і медсёстрах, кіроўцах, прадаўцах і прыбіральшчыках. Будаўнікоў на рынку працы пакуль хапае, пры тым, што 50 працэнтаў тых, хто выязджае за мяжу на працу, — гэта менавіта будаўнікі. А вось сярод тых, хто шукае працу, — найбольш падсобных рабочых, грузчыкаў, эканамістаў, бухгалтараў ды інжынераў. Падаецца, ужо кожнае дзіця ведае, што эканамістаў і бухгалтараў у нас зашмат, што ім няма дзе працаваць, але айчынныя ўніверсітэты працягваюць аграмадныя наборы на гэтыя спецыяльнасці, а будучыя студэнты і рады падаць заявы, спрабуючы паступіць хоць куды.

Незвычайныя падзеі зараз разгортваюцца ў Свіслачы — на могілках ля тамтэйшага касцёла Следчы камітэт распачаў эксгумацыю меркаванага пахавання Віктара Каліноўскага, старэйшага брата кіраўніка паўстання 1863–1864 гадоў. Усе працы зоймуць некалькі месяцаў, а за іх вядзеннемназіраюць беларускія і літоўскія археолагі. Мэта задуманага — генетычна пацвердзіць факт, што на гары Гедыміна ў Вільні сярод іншых паўстанцаў быў пахаваны і сам Кастусь Каліноўскі. Пакуль яго асоба ідэнтыфікаваная паводле ўскосных прыкметаў, у тым ліку — праз мадэляванне яго вывы па чэрапе і параўнанне з прыжыццёвым фотаздымкам.

Калі б быў вядомы хоць адзін жывы нашчадак Каліноўскага па мужчынскай лініі, генетычную ідэнтыфікацыю было б зрабіць проста. Але паколькі такіх пакуль не знайшлі, нягледзячы на тое, што Каліноўскія мелі вялікую сям'ю, давялося праводзіць эксгумацыю. Пры гэтым няма стоадсоткавай верагоднасці, што ў Свіслачы наогул знойдуць парэшткі Віктара Каліноўскага, бо канкрэтна гэтае месца пахавання збольшага сімвалічнае — вядома толькі, што брат рэвалюцыянера быў пахаваны на могілках ля касцёла. Літоўскі бок пра гэта быў папярэджаны, але ўсе спадзяюцца на плённасць даследаванняў. І на тое, што 2 лістапада на могілках Роса ў Вільні і літоўская, і беларуская дэлегацыі нарэшце змогуць годна перапахаваць парэшткі паўстанцаў, і адгэтуль кожны будзе ведаць, дзе ўшанаваць памяць беларускага героя Кастуся Каліноўскага.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Міхаіл Жамчужны



**Палітвязень марыў выйсці на волю па амністыі, якая ў гэтым годзе прымеркаваная да 75-годдзя вызвалення краіны, але пакаранні з яго так і не знялі.**

«Зараз Міхаіл, напэўна, у чарговы раз знаходзіцца ў штрафным ізалятары, бо доўга ўжо нічога не пісаў», — паведаміў сайту palitviazni.info праваабаронца Леанід Свецік. «Пад амністыю Жамчужны не патрапіў, бо з яго не знялі пакаранні, — кажа Свецік. — Хаця ён імкнуўся да гэтага, у яго была мэта — выйсці на волю. Міхаіл абскардзіў усе свае спагнанні і пакаранні, якія яму абвясціла адміністрацыя калоніі, але, як бачым, гэта выніку не дала».

У той жа час, паводле словаў праваабаронцы, ёсць яшчэ, хаця і вельмі малы, але шанец апынуцца Жамчужнаму на волі. Свецік зазначае, што амністыя будзе працягвацца каля паўгода, «і, магчыма, здарыцца цуд — і Міхаіл патрапіць пад яе. Але на гэта трэба палітычная воля вышэйшага кіраўніцтва, і для гэтага павінны быць нейкія перадумовы ўнутранага і знешняга характару, якія б зрабілі вызваленне Жамчужнага мэтазгодным для ўлады».

Міхаіл Жамчужны — адзіны афіцыйна прызнаны палітвязень у Беларусі. Свецік мяркуе, што зараз ёсць два варыянты: альбо ўлада чакае нейкіх падзей, каб выпусціць Жамчужнага на волю раней, альбо прынята прынцыповае рашэнне не выпускаць яго да 2021 года, калі ў яго скончыцца тэрмін зняволення.

Заснавальнік «Платформ Інавэйшн» Міхаіл Жамчужны ў ліпені 2015 года быў асуджаны на 6,5 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі строгага рэжыму. Беларускімі праваабаронцамі Міхаіл Жамчужны прызнаны палітычным зняволеным.

## Юрый Бондар



**Міністр культуры Беларусі нечакана знайшоў «беларускую ідэалогію» там, дзе яе ніхто не здагадаўся шукаць.**

Уноч з 6 на 7 ліпеня беларусы адзначалі Купалле, шукалі ў лясах папараць-кветку. У нядзельным эфіры АНТ міністр культуры Юрый Бондар распавёў, у чым сэнс легенды пра папараць-кветку. Паводле яго словаў, «мы верым у поспех, які павінна прынесці папараць-кветка».

На думку міністра, Купалле мае важнае значэнне для сучасных беларусаў. «Калі хочаце, ідэалагічнае значэнне. Можна шукаць сябе, можна казаць пра ідэнтычнасць народа — зараз гэта вельмі папулярныя размовы сярод экспертаў, культуролагаў. На самай справе, народ толькі тады ідэнтычны, калі ён памятае свае культурныя традыцыі, свае звычаі, абрады, гісторыю. Гэта ўсё нас робіць народам, робіць нас унікальнымі ў свеце сярод іншых народаў. І вельмі важна захоўваць сваю гісторыю і сваю культуру».

Цікава, што раней спадар Бондар не адрозніваўся асаблівай прыхільнасцю да нацыянальнага. Ён выступіў супраць агучкі фільмаў па-беларуску, дый сам у асноўным размаўляе па-руску.

Будзем чакаць, калі беларуская ідэалогія выявіцца ў вобразе цмока ці Пакаціграшка.

## Арына Сабаленка



**Беларуская тэнісістка была аштрафаваная на «Уімблдоне» на 10 тысяч долараў за «неспартыўныя паводзіны». Сутнасць гэтых паводзінаў не паведамляецца.**

Увогуле, суддзі «Уімблдона» за першы тыдзень тэніснага турніру вынеслі рэкордную суму штрафаў. Агулам на 106,4 тысячы долараў былі аштрафаваныя адразу 15 удзельнікаў. У іх ліку беларуская спартсменка. Вядома, што штраф у 5 500 долараў быў накладзены на расійскага спартсмена Данііла Мядзведзева «за той жа праступак» пасля таго, як ён пашкодзіў травяны корт сваёй ракеткай і адмовіўся паціснуць руку суддзі ў канцы гульні.

У мінулым годзе штрафы за нецэнзурныя выказванні, паламаныя ракеткі і іншыя правіны, якія ўключаюць спазненні на корт, парушэнні дрэс-кода, за два тыдні спаборніцтваў склалі ўсяго 68 тысяч долараў.

У той жа час у парным разрадзе беларуска ўтандэме з бельгійкай Эліс Мертэнс у 1/8 фіналу Адкрытага чэмпіянату Вялікабрытаніі па тэнісе справіліся з дзявятай парай турніру — сёстрамі Чань з Тайваня з лікам 7:5, 6:3, і прайшлі ў чвэрцьфінал «Уімблдона».

# Анексаваны Крым нечым падобны на Беларусь

Ігар КАРНЕЙ, РАДЫЁ СВАБОДА

**Пяць гадоў Крым жыве ва ўмовах расійскай акупацыі. Аб'ектыўнай інфармацыі з паўвострава прыходзіць мала: медыяпрастора цалкам падкантрольная прызначаным Масквой уладам, незалежныя СМІ практычна вынішчаныя, праўкраінскіх журналістаў караюць за «распальванне нацыянальнай варажнечы». Каб пабачыць усё гэта на ўласныя вочы, з Беларусі ў Крым выправіўся невялікі журналісцкі дэсант.**




Фота www.svaboda.org

Графіці з выявай Уладзіміра Пуціна ў Сімферопалі

## У Крым праз Украіну: допыт патэнцыйных экстрэмістаў

Каб не мець праблемаў з тамтэйшымі спецслужбамі, даслалі адпаведныя запыты ў Міністэрства замежных спраў Расіі і ў Службу міграцыйнай палітыкі Украіны. У выніку тры беларускія СМІ расійскі бок акрэдытаваў, а вось «Радыё Свабода» ў афіцыйным дазволе адмовілі. Украінскае ж ведамства не ўгледзела нічога, што перашкодзіла б наведаць «часова акупаваную тэрыторыю».

Маючы на руках прынамсі адзін дакумент, ужо можна было рызыкнуць — у найгоршым выпадку расіяне развярнулі б назад.

Пункт пропуску Каланчак — паўнавартасная мяжа: з абсталяванымі агнявымі пунктамі, пунктамі надгляду, навучанымі сабакамі і буфернай зонай. З боку Украіны спраўджваюць міграцыйны дазвол і пашпарт, а на расійскім баку чакае пашпартны, мытны і эфэсбэшны кантроль.

З пацвярджальнымі дакументамі ўкраінская частка праграмы шмат часу не займае. Расіяне ж выяўляюць надзвычайную пільнасць. Калегаў з афіцыйнай акрэдытацыяй прапусцілі досыць лёгка (складаней было на зваротным шляху, бо хацелі ведаць, якую інфармацыю тыя здабылі), а вось самастойны падарожнік, ды яшчэ такі, што здолеў легалізавацца праз Кіеў, успрымаецца з падазрэннем.

У маім выпадку дрэнную службу саслужылі штампы пра наведванне краін Блізкага Усходу — Лівану і Іарданіі. Некалькі дзясяткаў крымска-татарскіх актывістаў адбываюць працяглыя тэрміны зняволення (ажно да 20 гадоў) за датычнасць да рэлігійна-палітычнай арганізацыі «Хізб ут-Тахрыр», заснаванай ва Усходнім Ерусаліме на пачатку 1950-х гадоў. За ўкраінскім часам яе актывісты дзейнічалі легальна, у Расіі ж «Хізб ут-Тахрыр» лічыцца тэрарыстычнай арганізацыяй і на гэтай падставе забароненая.

Супрацоўнікаў ФСБ цікавіла, адкуль узялася ідэя заехаць менавіта ў гэты рэгіён, ці былі сустрэчы з рэлігійнымі дзеячамі, якога сам веравызнання. Спраўдзілі тэлефонны даведнік на прадмет падазроных кантактаў, прагледзелі фотагалерэю і аўдыёфайлы. А яшчэ цікавіла, ці ёсць знаёмыя высокапастаўленыя сілавікі ў адпаведных ведамствах Украіны і Беларусі. Гадзінная гутарка скончылася тым, што настойліва прапанавалі адкатаць пальцы і сфатаграфавацца анфас-профіль. Правераны і занесены ў аналы ФСБ, працягнуў крымскі паход.

## Ізаляцыя ў прарасійскім анклаве

Візуальна жыццё ў крымскіх гарадах мала адрозніваецца ад беларускага. Працуюць дзяржаўныя ўстановы, забаўляльныя клубы, рэстарацыі. Людзі ідуць па справах, транспарт ходзіць, паліцыя наглядае. Трапляюцца турысты — амаль у 100% расіяне з «вялікай зямлі», але можна наткнуцца і на беларусаў. Дабіраюцца пераважна самалётамі праз Маскву. Пра тое, што парушаюць законы Украіны, нават не задумваюцца.

Недасведчаны чалавек і не западозрыць, якія жарсці разгортваюцца за гэтым мірным фасадам. А тым часам штодня судзяць актывістаў, якія і праз 5 гадоў не могуць змірыцца з расійскай анексіяй. Адвакаты намагаюцца выцягваць людзей з турмаў па ўсёй Расіі. Не спыняюцца спробы знайсці сляды тых, хто быў выкрадзены і знік. Пра ўсё гэта «Свабода» будзе расказваць у сваіх рэпартажах.

Грамадства паўвострава існуе ва ўмовах міжнародных санкцый. Замежныя інвестары практычна адразу павыводзілі капіталы, і ўвесь бізнес цяпер тут выключна расійскі. Даходзіць да абсурду: усясветная сетка фастфуду KFC (Kentucky Fried Chicken) на старых шыльдах пертварылася ў CFC (Crimean Fried Chicken). На шапіках у сярэдзіну слова «саМса» на шыльдах устаўляюць усім вядомае «М» з Макдональдсу.

У банкаматах карткі міжнародных эмісійных цэнтраў не абслугоўваюцца — толькі расійскія. Таму спадзеў выключна на наяўныя грошы. Роўмінг не працуе, затое багата ўнутраных аператараў сувязі.

Ратавацца ад блакады актыўна дапамагаюць беларускія вытворцы. У крамах вялікі выбар малочных і мясных прадуктаў, гарэлкі і сокаў, цукерак і печыва. Абсталяваныя нават асобныя крамы з цалкам беларускім асартыментам — брэсцкімі каўбасамі, лідскім квасам, мінскай мінералкай. На пытанне пра лагістыку гандляры адкрыта прызнаюцца, што спачатку ўсё вязецца ў расійскі Краснадар, а ўжо адтуль праз Керчанскі мост трапляе на паўвостраў.

А ёсць энтузіясты, якія дагэтуль, як у 1990-х, перавозяць тавар торбамі. Менавіта так папаўняецца сезонная калекцыя ў невялікай сімферопальскай крамцы «Беларускі трыкатаж». Заўвага пра наступствы выклікае раздражнёны смех і запэўніванне, што «плявалі крымчукі на санкцыі»: «Нас имеют, а мы крепчаем», — разьвеяла сумневы жанчына за прылаўкам.

Жыццё тут дарагое: па цэнах на паслугі і харчы Крым спаборнічае з Масквой ці нават яе апярэджвае. Расійскія пенсіі і заробкі з 2014 года з'ела інфляцыя, а цэны растуць ледзь не ў геаметрычнай прагрэсіі. На гэта наракае, бадай, кожны, нават прыхільнік Пуціна. І прызнае: за меншую суму ў грыўнях можна было дазволіць сабе нашмат больш, чым за запаветны рубель.

## Вынішчэнне ўкраінскага асяроддзя

А вось ад украінскага перыяду практычна нічога не засталося — за выключэннем хіба гатэля «Украіна» ды вуліцы Кіеўскай у Сімферопалі.

Школы з украінскай мовай пазачыненыя (дзеці, якія хочуць далей вучыцца ў Кіеве, займаюцца з рэпетытарамі падпольна). Украінскія выданні разгромленыя і выціснутыя з інфармацыйнага поля. Кафедральны сабор Украінскай праваслаўнай царквы, якая да нядаўняга часу заставалася апошняй выспачкай украінскай мовы, нацыяналізуецца, вернікам прадпісана пакінуць памяшканне. Жоўта-блакітны сцяг прыроўнены да экстрэмісцкай сімволікі і забаронены, парушальнікі атрымліваюць рэальныя тэрміны зняволення.

Адносна лепшыя справы ў крымскіх татараў — не так лёгка скарыць амаль 400 тысяч абарыгенаў. За сцяг не караюць, працуюць школьныя класы, некаторыя з крымскіх татараў служаць у дзяржаўных установах. Але ў масе сваёй якраз татараў цяпер пераследуюць найбольш: сотні чалавек ужо асуджаныя ці чакаюць выракаў па экстрэмісцкіх, тэрарыстычных ды іншых цяжкіх артыкулах. У размовах людзі параўноўваюць сваё жыццё з тым, што папярэднічала масавай дэпартацыі 1944 года.

Затое раздолле для аматараў «русского мира». На сценах будынкаў — муралы з выявамі Уладзіміра Пуціна, галоўнага архітэктара «вяртання Крыму ў родную гавань».

Урадавы будынак з помнікам Леніну на подступах, дзе працуе каманда расійскага прызначэнца Сяргея Аксёнава, упрыгожвае 3D-надпіс з хэштэгам «Крым. Россия. Навсегда». На сцяне заводу электраінструментаў — лозунг: «Наш опыт и традиции — на службу России». Над вуліцамі расцяжкі нагадваюць, наколькі важны для Масквы голас кожнага крымчука — 8 верасня пройдуць выбары дэпутатаў дзяржсавету другога склікання.

Хваліцца сваімі поспехамі крамлёўская партыя «Единая Россия»: новыя мікрараёны, школы, электрастанцыі, дарогі і масты. У гістарычным будынку ў цэнтры адміністрацыйнай сталіцы атабарылася грамадская прыёмная партыйнага лідара Дзмітрыя Мядзведзева. Не адстаюць камуністы вечнага Генадзя Зюганава — па колькасці нагляднай агітацыі ленінцы сярод передавікоў. На стацыянарных тумбах красуецца лідар ліберальных дэмакратаў Уладзімір Жырыноўскі.




Фота www.svaboda.org

Рэклама КПРФ у Севастопалі

## Зачыстка мясцовасці для перасяленцаў

За некалькі гадоў расіяне з мацерыка ўпэўнена выціснулі кіраўнічыя кадры ўсіх узроўняў — даверу няма нават лаяльным мясцовым, якія памянялі ўкраінскія працоўныя кніжкі на расейскія. Як патлумачыў адзін з былых службоўцаў, логіка простая: хто раз прадаўся, на таго больш нельга разлічваць. Роля тутэйшых адміністратараў зведзеная да абслугоўвання старшых па званні.

Для перасяленцаў з вялікай зямлі рыхтуюць інфраструктуру. Узводзяць цэлыя мікраёны — асабліва ў стратэгічных гарадах. Мілітарызацыя паўвострава спрычынілася да рэзкага прытоку вайскоўцаў, якія з сем'ямі пераязджаюць сюды з усёй Расіі.

Акрамя таго, адмысловыя дзяржаўныя праграмы сацыяльна-эканамічнага развіцця Крыму ў розных галінах прадугледжваюць перагляд кадравага рэгістру ў прамысловасці, будаўніцтве, транспарце, медыцыне, адукацыі і г.д. Калі кіравацца дадзенымі адкрытых вакансій у розных рэгіёнах Расіі, гаворка пра сотні тысяч месцаў, на якія могуць прэтэндаваць кандыдаты.

Няма дакладнай статыстыкі, колькі ўладальнікаў украінскіх пашпартоў вымушана паз'язджалі ва Украіну ды ў іншыя месцы. Крымскія татары называюць лічбу 50 тысяч адносна толькі сваіх суродзічаў, дзясяткамі тысяч вымяраецца колькасць украінцаў ды іншых нацыянальных групаў.

## Чым лёс Крыму паказальны для беларусаў

Лёс Крыму надзвычай паказальны для народаў, якія ўяўляюць стратэгічны інтарэс для Крамля — перадусім для беларусаў. Ідэалагічная база, якая пачала фарміравацца задоўга да анексіі, мала чым адрозніваецца ад таго, з чым штодзённа сутыкаюцца жыхары Беларусі. Татальная русіфікацыя ўсіх сфераў, ваяўнічая рыторыка тэлеканалаў, вайсковая прысутнасць, сыравінная залежнасць, рычагі ўплыву на вышэйшых кіраўнікоў (Аляксандр Лукашэнка і Украіна часоў Віктара Януковіча) — усё гэта звёны аднаго лагічнага ланцуга.

З улікам убачанага ўжо не выглядае асаблівай фантастыкай, што на фоне апатыі насельніцтва і ўхвалення палітыкі ўсходняга саюзніка над беларускімі гарадамі можа залунаць расійскі трыкалор...

# Працоўны кодэкс ператворыць работнікаў у «часова занятых»?

Юрый ГЛУШАКОЎ

**Палата прадстаўнікоў 26 чэрвеня прыняла ў другім чытанні папраўкі ў Працоўны кодэкс. Незалежныя прафсаюзы лічаць, што змены могуць узаконіць пагаршэнне правоў працоўных.**




## Кантракты і цмокі

Цяпер у закон аб працоўных адносінах уключаюцца нормы дэкрэту № 29 аб кантрактнай форме найму і Дэкрэту №5 аб узмацненні працоўнай дысцыпліны.

Часовыя працоўныя дамовы, уведзеныя дэкрэтам №29 ад 26 ліпеня 1999 года «Аб дадатковых мерах па ўдасканаленні працоўных адносінаў, умацаванні працоўнай і выканальніцкай дысцыпліны», сталі адным з самых моцных удараў па прававым становішчы наёмных працоўных. Да гэтага ў Беларусі практыкаваліся бестэрміновыя працоўныя дамовы, атрыманыя ў спадчыну ад савецкага КЗаП. Ад ліпеня 1999 года дамова найму паміж працаўніком і працадаўцам стала заключацца на тэрмін ад аднаго года да пяці. Пад дзеянне дэкрэта траплялі ўсе рабочыя і служачыя Беларусі на прадпрыемствах і арганізацыях усіх форм уласнасці.

Тэарэтычна, у працадаўцы захоўвалася магчымасць заключыць і бестэрміновую дамову. Але, зразумела, на дзяржпрадпрыемствах гэта амаль не практыкуецца — такія гарантыі зусім не ў інтарэсах наймальнікаў.

Дэкрэт №5 ад 15 снежня 2015 года «Аб узмацненні патрабаванняў да кіруючых кадраў і работнікаў арганізацый» працягнуў стратэгію «закручвання гаек» на працоўных месцах. Гэты дэкрэт уводзіў сапраўды драконаўскія меры пакарання ў адносінах да наёмным работнікаў. Персанал дазвалялася караць грашовымі вылікамі на працягу ўсяго года. Пры гэтым фактычныя штрафы маглі сягаць чвэрці гадавога заробку працоўнага. Нават аднаразовае «грубае парушэнне работнікам сваіх абавязкаў» магло выклікаць датэрміновае скасаванне кантракту і звальненне. Таксама працадаўца па сваім меркаванні мог істотна змяняць умовы працы, папярэдзіўшы працаўніка ўсяго за тыдзень.

Для таго, каб гэтыя механізмы рэпрэсіўнага кантролю працавалі напоўніцу, дадатковая адказнасць усталёўвалася і для кіраўнікоў. Згодна з пунктам 6.9, ім таксама пагражала звальненне ў выпадку «ўтойвання фактаў парушэння работнікам працоўных абавязкаў» і не прыцягнення яго да адказнасці.

## Паляпшэнне праз узмацненне жорсткасці?

Актывісты рабочага руху ад самага пачатку выступалі супраць кантрактнай формы найму. Лозунгі «Не — кантрактам!», «Кантракты — пятля на шыі працоўных!» гучалі амаль на ўсіх мітынгах і дэманстрацыях на сацыяльную тэму. Ставілася гэтае пытанне і ў Міжнароднай арганізацыі працы (МАП) пры ААН, у якую ўваходзіць і Беларусь. Пры гэтым айчынныя ўлады звычайна казалі, што дэкрэты — мера часовая. Цяпер жа гэтыя нормы могуць стаць часткай пастаянна дзейнага заканадаўства.

Ужо 26 чэрвеня, адразу пасля галасавання дэпутатаў за прыняцце паправак у Працоўны кодэкс, лідары незалежных прафсаюзаў пачалі біць у званы. Паводле іх дадзеных, гаворка ішла пра безумоўнае ўключэнні ў ПК усіх жорсткіх нормаў дэкрэтаў №29 і №5. У прыватнасці, пра гэта заяўляў старшыня Беларускага кангрэсу дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандр Ярашук у інтэрв'ю Naviny.by і на сваёй старонцы ў Фэйсбуку. «Цяпер гэта кодэкс, пра які можа марыць любы неаліберал, — сказаў Ярашук. — Цяпер не на ўзроўні дэкрэтаў, але на ўзроўні Працоўнага кодэкса замацавана, што ўсіх работнікаў пераводзяць на тэрміновыя ўмовы найму, і Беларусь становіцца краінай часовай занятасці. Работніка без усялякіх тлумачэнняў прычын і выплаты выходной дапамогі можна проста выкінуць у сувязі са сканчэннем тэрміну дзеяння кантракту. Яго можна падвергнуць неймаверным пакаранням, пазбаўляючы да трох чвэрцяў заробку з дапамогай штрафаў за парушэнне працоўнай, вытворчай, выканальніцкай дысцыпліны».

**Галоўная праблема, што хвалюе рабочых і служачых, — нізкія заробкі. Аднак цяпер любыя спробы дамагчыся іх павышэння лёгка спыняюцца з дапамогай пагрозы непадаўжэння працоўнага дагавора**

Змены ў Працоўны кодэкс 28 чэрвеня былі зацверджаныя Саветам рэспублікі. Зараз справа засталася за подпісам кіраўніка дзяржавы. Аднак афіцыйна гэтыя папраўкі нідзе не публікаваліся. Адначасова ў афіцыйнай Федэрацыі прафсаюзаў пачалі казаць, што ім удалося дамагчыся ўнясення ў кодэкс нормаў, якія не пагаршаюць, а паляпшаюць прававое становішча беларускіх работнікаў. Пры гэтым нават у лаяльнай ФПБ прызналі, што «непадаўжэннем» кантрактаў працадаўцы ўсіх формаў уласнасці часцяком маскіруюць схаванае скарачэнне персаналу.

Дык што ж адбываецца на самай справе? Новы кодэкс ашчасліўіць або зробіць яшчэ больш бяспраўным гаротнага беларускага работніка?

Сапраўды, зараз у ПК прадугледжана, што з добрасумленным работнікам, які не мае дысцыплінарных спагнанняў, кантракт будзе заключацца на максімальны тэрмін — у межах пяці гадоў, а можа быць заключаны і на няпэўны час. Аднак такія рэкамендацыі былі зробленыя ўжо некалькі гадоў таму. Таксама тэрмін паведамлення пра «істотныя змены ўмоваў працы» ў кодэксе застанецца ранейшым — 30 дзён, а не сем, як было прадугледжана дэкрэтам №29.

Аляксандр Ярашук сказаў «Новаму Часу» пра тое, што незалежныя прафсаюзы «пакуль не бачылі прынятага закона, ён з'явіцца на публіку пасля падпісання кіраўніком краіны». «Верагодна, варта чакаць змякчэння найбольш драконаўскіх нормаў дэкрэтаў №29 і №5. Ва ўсялякім выпадку, мы ўсё рабілі для таго, каб гэта здзейснілася. Але нас, і асабліва работнікаў, гэта не вельмі суцешыць. Сістэму тэрміновых працоўных кантрактаў, як і гільяціну, немагчыма прынцыпова ўдасканаліць. І адно, і другое можна толькі адмяніць. Сумесна з МАП, з міжнародным прафсаюзным рухам, мы будзем на гэтым настойваць, і рана ці позна свайго даможамся», — заявіў прафсаюзны лідар.

Пры гэтым старшыня БКДП лічыць, што нормы дэкрэтаў №29 і №5 па-ранейшаму істотна пагаршаюць прававое становішча працаўнікоў, уводзяць элементы прымусовай працы і ўстанаўліваюць сістэму празмерных пакаранняў за парушэнні дысцыпліны.

## Вандроўны персанал

Але варта звярнуць увагу, што, акрамя кантрактаў і ўзмацнення жорсткасці дысцыплінарнай адказнасці, у ПК уносяцца і іншыя палажэнні, якія супярэчаць інтарэсам работнікаў. Напрыклад, артыкул 32 цяпер прадугледжвае, што змены ў чарзе выхаду работнікаў на працу больш не з'яўляюцца зменай істотных умоў працы. Маўляў, такі «гнуткі» падыход дасць наймальніку больш свабоды і аператыўнасці ў арганізацыі вытворчасці, калі нехта захварэў ці не выйшаў на працу. А для чаго людзей перакідваюць па зменах на самай справе?

Аляксандр, які працуе на адным з прыватных шкляных прадпрыемстваў у Гомелі, кажа, што іх часцяком перакідваюць з адной змены на другую. «Такі пастаянны збой стварае сур'ёзныя праблемы для рэжыму сну і адпачынку, і без таго парушанага трохзменным графікам працы. Гэтак жа цяжка запланаваць нейкія сямейныя справы і вольны час — ты сабраўся правесці дзень з дзецьмі, а табе тэлефануюць і выклікаюць на працу. З пункту гледжання вытворчасці, такія перакіданні — таксама мінус, бо губляецца ўзаемадзеянне і зладжанасць у калектыве. Але можна меркаваць, што менавіта гэта і трэба кіраўніцтву — парушыць сувязі паміж людзьмі, каб і гаворкі не магло ісці пра салідарныя дзеянні рабочых па адстойванні сваіх інтарэсаў», — разважае ён.

Новая рэдакцыя артыкула 123 ПК дае наймальніку права перакідваць работнікаў са змены на змену, папярэдзіўшы іх усяго за дзень да гэтага.

Артыкул 32.1 прысвечаны пераводу работніка на іншую працу, у тым ліку і да іншага працадаўцы і ў іншы горад. То-бок, канчаткова легалізуе «лізінг», або, па сутнасці, проста перапродаж персаналу.

Дзеля аб'ектыўнасці варта сказаць, што ў новай рэдакцыі ПК прадугледжаны і некаторыя «плюшкі». Напрыклад, будзе павялічаная выхадная дапамога да аднаго сярэднямесячнага заробку ў выпадку, калі работнік адмовіўся ад працы па прычыне нязгоды з такімі зменамі ўмоў працы, як працоўны тыдзень менш 20-ці гадзін. Груба кажучы — ад пераводу на «двухдзёнку», які падштурхнуў работніка да добраахвотнага звальнення. Таксама ў такім рэдкім выпадку, як звальненне працоўнага пенсіянера з парушэннем наймальнікам працоўнага заканадаўства, пенсіянеру цяпер будзе выплачвацца выходная дапамога.

## «Не падабаецца — звальняйся!»

З якой мэтай у Беларусі былі ўведзеныя і цяпер канчаткова ўзаконеныя кантракты? Акрамя таго, што гэта дазваляе кантраляваць нязгодных, мэта кантрактнай сістэмы — павелічэнне эксплуатацыі наёмных работнікаў.

Галоўная праблема, што хвалюе ўсіх без выключэння рабочых і служачых, — нізкія заробкі. Аднак любыя спробы дамагчыся ад працадаўцы іх павышэння цяпер лёгка спыняюцца з дапамогай пагрозы непадаўжэння часовай працоўнай дамовы. «Не падабаецца — звальняйся!» — такую фразу чуў, напэўна, кожны з працоўных нават пры намёку свайму кіраўніцтву пра тое, што «нядрэнна было б дадаць».

Спрошчаная кантрактамі пагроза звальнення дазваляе блакаваць любыя спробы стварэння незалежных прафсаюзаў — галоўнай зброі ў барацьбе работнікаў за годны заробак і паляпшэнне ўмоў працы.

Пры гэтым сёння кантрактная сістэма стала важнай часткай неаліберальнай стратэгіі наступу на правы наёмных работнікаў ва ўсім свеце. Дарэчы, лідар Канфедэрацыі свабодных прафсаюзаў Украіны выказаў занепакоенасць сітуацыяй з кантрактамі ў Беларусі, паказваючы на тое, што ўсе негатыўныя змены ў працоўным заканадаўстве маюць уласцівасць вельмі хутка распаўсюджвацца ў рэгіёне.

Вясной 2017 года, падчас беспрэцэдэнтных масавых пратэстаў супраць дэкрэта №3, гучалі патрабаванні і адмены кантрактнай сістэмы, і павышэння пенсійнага ўзросту. Пад ціскам народа, які нечакана самаарганізаваўся, «падатак на беспрацоўе» быў адменены. Кантрактная сістэма, якая выклікае столькі незадаволенасці і нараканняў, пакуль толькі мадыфікуецца. Адмова ад гэтай адыёзнай практыкі — важны крок да абароны і пашырэння правоў усіх работнікаў Беларусі.



Фота www.youtube.com

**Чачня — гэта месца, дзе ў жанчын няма амаль ніякіх правоў. Яны нічога не вырашаюць, часта не могуць кудысьці хадзіць без мужа. Жанчыны павінны насіць спадніцы ці сукенкі ў дол, паранджу ці хіджаб. За тое, што дзяўчына прайшлася з хлопцам за руку, ёй могуць пагаліць валасы ці асудзіць паводле шарыяцкага суда — закідаць камянямі да паўсмерці**

# «Мы гатовыя былі атруціцца, калі б не атрымалі беларускія візы, — у нас ва ўсіх быў яд»

Дзіяна СЕРАДЗЮК

**Тэма бежанцаў не адносілася да самых актуальных у Беларусі, пакуль у 2016 годзе ў Брэст не паліліся патокі ўцекачоў з Паўночнага Каўказу. Цяжкасці і пакуты, якія яны перажывалі і працягваюць перажываць, завіснуўшы на беларуска-польскай мяжы, немагчыма параўнаць з тым, праз што ім давялося прайсці на радзіме.**

Арганізацыя Human Constanta займаецца абаронай правоў замежных грамадзян і асоб без грамадзянства, якія апынуліся ў Беларусі ў складаней сітуацыі. Да Сусветнага дня бежанца, які адзначаецца 20 чэрвеня, яе актывісты зладзілі шэраг мерапрыемстваў у Мінску і Брэсце, каб распавесці, праз што даводзіцца праходзіць людзям, якія ўцяклі ад бедстваў і пераследу, і што можна зрабіць, каб палегчыць іх лёс. За амаль тры гады працы валанцёры Human Constanta сабралі шэраг гісторый — яны вельмі розныя, але ў цэнтры іх заўжды знаходзіцца чалавек, які быў вымушаны пакінуць свой дом не па ўласнай волі. «Новы Час» занатаваў некалькі расповедаў тых, хто ўцёк у нашу краіну, каб выратаваць жыццё.



Фота www.belaruspartisan.by

### «Сястра лепш памрэ, чым выйдзе замуж»

«Маёй сястры ўсяго 16 гадоў, а гэтаму мужчыну пад 50. На фоне стрэсу ў сястры развілася хвароба скуры і была спроба суіцыду. Жыве ён каля нас, у нашым родным сяле. Хуткі — гэта яго мянушка — гэта ўплывовы жахлівы чалавек, які мае неабмежаваныя правы, і адмоваў ён не прымае. Мы баімся за жыццё сястры, якая сказала, што лепш памрэ, чым выйдзе за яго замуж. Наш бацька на нервовай глебе атрымаў інсульт, быў паралізаваны левы бок, частковая страта памяці і маўлення. Мой муж працаваў у ахове Хуткага. Як толькі ён даведаўся пра сітуацыю, ён нас папярэдзіў, што калі сястра не пагодзіцца выйсці замуж, то ўся сям'я будзе знішчаная — абвесцяць тэрарыстамі ці падкінуць наркотыкі. За тое, што нам было паведамлена пра дату вяселля і магчымыя наступствы, майго мужа сілком забраў Хуткі.

Да маёй сястры былі яшчэ такія ж маладзенькія дзяўчаткі, іх таксама забіралі нібыта замуж, пару дзён Хуткі пагуляецца з імі — а потым бацькі не знаходзяць сваіх дзяцей. Адна жанчына казала, што апошні раз бачыла сваю дачку ў аэрапорце з ім, калі яны вылятаілі ў Турцыю. Назад ён вярнуўся адзін. Лёс гэтай і іншых дзяўчат дасюль не вядомы. Бацькі іншых дзяўчат увогуле баяцца нешта казаць, інакш іх чакае страшнае. І менавіта таму варыянту вяртацца дамоў у нас няма».



Фота www.youtube.com

### «Калі ўбачаць, што ты дазволіла сабе вольнасць — то ўсё»

«Чачня — гэта месца, дзе ў жанчын няма амаль ніякіх правоў. Яны нічога не вырашаюць, часта не могуць кудысьці хадзіць без мужа, асабліва ў скрайне традыцыйных сем'ях. Жанчыны павінны насіць спадніцы ці сукенкі ў дол, паранджу ці хіджаб. На спатканнях хлопчыкі з дзяўчынкамі павінны знаходзіцца на адлегласці ў паўметра адзін ад аднаго, ні пра якое «патрымацца за ручку» ці нават сесці на лаўку побач і гаворкі быць не можа. Калі ўбачаць, што ты дзесьці дазволіла сабе вольнасць — то ўсё.

За тое, што дзяўчына прайшлася з хлопцам за руку, ёй могуць пагаліць валасы ці асудзіць паводле шарыяцкага суда — закідаць камянямі да паўсмерці.

Так атрымалася, што я зацяжарала. Я не была замужам за гэтым чалавекам, ён быў іншай нацыянальнасці. Гэта ганьба для сям'і. За такое мяне маглі б і забіць — абы пазбавіцца ад сораму. Я распавяла пра ўсё маці, яна распавяла бацьку, і пасля гэтага мяне добра «расфарбавалі». Бацька сказаў, каб я рабіла аборт. Дакладней, ён сказаў, што сам павядзе рабіць аборт. Ён казаў, што я зганьбіла ўвесь наш род, што калі пра гэта даведаюцца, то мяне пакараюць паводле шарыяцкага суда, што мяне заб'юць, таму што такое ў нас не даруецца. А калі і даруецца, то робяць так, каб чалавек проста знік. Не забіваюць прылюдна — проста чалавек знік: сышоў, з'ехаў, яшчэ нешта…

Я вырашыла збегчы з гэтым хлопцам. Мы з'ехалі да яго на радзіму. Калі я была прыкладна на сёмым месяцы цяжарнасці, ён са мной ажаніўся. За час сумеснага жыцця мы не раз змянілі гарады. Праз некалькі гадоў ён вырашыў, што нам час разыходзіцца. «Ты ідзі на ўсе чатыры бакі, а дзіця пакінь мне». А мне ісці няма куды. Са мной з тых часоў ніхто з маіх сваякоў не меў стасункаў, і я не выходзіла з імі на сувязь. З мамай хацелася б. Таму што гэта — мама. Я ўпэўнена, што яна хоча дапамагчы, але супраць бацькі яна не пойдзе. Маё дзіця для іх — байструк. Я вырашыла ўзяць сына і ўцячы. Уцякла. Жыла нейкі час у знаёмых, потым у сяброўкі. У адзін з дзён раздаўся званок у дзверы. У вочка я не глядзела — не чакала нічога. Прыйшоў мой муж, так бы мовіць. Але адкуль ён мог ведаць, што я там? Скончылася ўсё бойкай. Мая сяброўка выклікала паліцыю. На наступны дзень я забрала дзіця, купіла квіткі і прыехала ў Брэст».

### «У Брэст не хацела ехаць, проста я не магу аддаць яму дзяцей»

«Мяне завуць Мадзіна. Я ўцякаю ад мужа. Ён у мяне п'е, здзекуецца, б'е мяне. Я восем гадоў трывала, а потым ужо дзеці дарослыя сталі. Удзень ён звычайна не п'е, а ноччу ў 2–3 гадзіны прыходзіць, збівае мяне, шуміць. Дзеці пужаліся яго моцна, плакалі — і я сышла. У нас разводу афіцыйнага няма, але мы разышліся.

Напачатку ў нас усё было добра. А потым аднойчы ўначы яго забралі, збілі моцна — не ведаю, хто. Калі вярнуўся, увогуле іншым чалавекам стаў. Пачаў піць, мяне збіваць, нешта ў псіхіцы яго парушылася. Потым

яго зноў забралі. Зноў збілі моцна, рэбры зламалі.

Псіхіка дзяцей гэтага не вытрымлівае. Муж кажа, што яго памылкова забралі. Тры дні яго шукалі, не маглі знайсці. Пасля таго, як збілі, кінулі за горадам. А пазналі яго маладыя мужчыны, пазванілі нам. З тых часоў муж пачаў піць і біцца. Я заўжды казала: калі хочаш піць — пі. Не хочаш працаваць — не працуй. Не хочаш дапамагаць — не дапамагай. Я працую. Але збіваць мяне не трэба — я ж не жалезная. За тыдзень я магла дзве ці тры ночы спаць спакойна. А ўсе астатнія дні ён мяне моцна збіваў. Штоночы прыходзіць п'яны — гэта немагчыма трываць.

Калі я пачула, што можна ўцячы праз Брэст, у мяне не было грошай. Муж сказаў, што хоча дзяцей забраць. Я сказала маме, што не магу аддаць яму дзяцей, але калі ён задумаў — а я яго ведаю, — ён іх забярэ. Я таемна прыехала, ён не ведаў. А калі даведаўся, то паведамленне мне напісаў: «Мулу скажу, што ты ў мяне дзяцей скрала, а калі дабяруся да цябе, табе будзе дрэнна. Як ты магла так зрабіць?» Я спужалася. Тут мне злавіць лёгка, таму я звязалася з яго мачыхай і сказала, што мы ўжо перайшлі мяжу. Спецыяльна сказала, каб ён не шукаў нас.

Ён мне пагражаў, пісаў паведамленні: «Калі не аддасі дзяцей, я цябе заб'ю, родным тваім праблемы ствару». У нас прынята, каб дзеці былі з бацькам. Летась былі ўз'яднанні сем'яў — многіх разведзеных уз'ядналі. З боку дзяўчыны родныя ходзяць, з боку мужа ходзяць, дамаўляюцца, мірац. Я б назад вярнулася да мужа з радасцю, калі б ён быў добрым бацькам. Я б і дзяцей аддала яму. Проста дзеля дзяцей я б гэта зрабіла, нават калі б я потым памерла. Я ім зычу дабра.

Сюды, у Брэст, я не хацела ехаць, проста я не магу аддаць яму дзяцей. Ведаю, што ён за чалавек. Ён адно дзіця аддасць адной сваёй цётцы, іншае дзіця — іншай цётцы. У нас сорамна не даглядаць за дзецьмі. Свякроў кажа, што забярэ іх да сябе, а насамрэч не будзе за імі даглядаць. Ён нікчэмны бацька, дый дзеці самі не хочуць да яго. Як толькі гэтая размова ў нас пачалася, я запанікавала, пазваніла брату, дзядзьку. Яны кажуць, што калі бацька хоча забраць дзяцей, натуральна, яны мусяць быць з ім. Яны мяне не разумеюць. А калі я заяўлю ў міліцыю, яны таксама скажуць, што гэта толькі мая праблема».



Фота www.sputnik.by: Дзмітрый Босак

### «У мяне была пагроза выкідышу наўпрост на мяжы»

«Мяне завуць Сітора, я з Таджыкістана. Я журналістка. Са мной мой муж, таксама журналіст. Ён таксама грамадзянін Таджыкістана. Я працавала журналістам у 2014–2015 гадах на тэлеканале, які фінансаваўся ісламскай партыяй «Адраджэнне Таджыкістана». Гэта наша апазіцыйная партыя. Наш тэлеканал трансляваўся з Масквы праз спадарожнікавы канал. Тады ж я вучылася ў Маскве ва ўніверсітэце. У 2015 годзе партыя была прызнаная тэрарыстычнай арганізацыяй у Таджыкістане, яе закрылі. Большасць сяброў партыі былі асуджаныя і змешчаныя ў турму.

Пасля закрыцця партыі мяне выслалі з Расіі ў Таджыкістан. У мяне пачаліся праблемы дома. Мяне дапытвалі ў КДБ, пагражалі маёй сям'і, на мяне спрабавалі напасці на вуліцы. Яны ўзламалі мае сацыяльныя сеткі і праслухоўвалі тэлефон. Я была ў «чорным спісе» для працы ў журналістыцы і не магла знайсці працу амаль чатыры гады. Амаль увесь час праводзіла на допытах. Потым я выйшла замуж. Ён таксама працаваў на тэлебачанні, але праз наш шлюб ён страціў працу і таксама трапіў у «чорны спіс». Яму сталі пагражаць, каб ён прымусіў мяне даць паказанні супраць кіраўніка партыі.

Нам удалося ўцячы ў Кыргызстан, а адтуль мы прыехалі ў Брэст, каб прасіць прытулак у Польшчы. Я цяжарная. Мы здзейснілі ўжо сем спробаў, але нас не прапускаюць. Падчас адной са спробаў у мяне была пагроза выкідышу, у Цярэспалі, наўпрост на мяжы. Але польскія дактары пратрымалі мяне чатыры гадзіны і адправілі назад у Брэст, таму што было б дорага трымаць мяне далей. Мне было вельмі балюча ехаць назад у Брэст. А тут АГіМ (Аддзел па грамадзянстве і міграцыі. — НЧ) паставіў нам скарачэнне тэрміну знаходжання ў Беларусі. Калі мы не зможам праехаць за сем дзён, нас вышлюць з Беларусі, і мы не зможам сюды вярнуцца. І тады я не ведаю, што нам рабіць. У Таджыкістане нам не дадуць жыць».

Пазней стала вядома, што ў гэтай гісторыі адбыўся шчаслівы фінал. У апошні дзень знаходжання ў Беларусі Сіторы з мужам удалося падаць дакументы на атрыманне статусу бежанца ў Польшчы, і там жанчына нарадзіла дзіця. Сям'ю прытуліў былы мэр Варшавы. Праўда, наданне статусу ўсё яшчэ знаходзіцца на разглядзе.

### «Я проста хачу жыць у бяспецы»

«Я прыехала ў Беларусь напрыканцы снежня 2017 года, не маючы візы. У Расіі мне адмовілі ў часовым прытулку, а вярнуцца ў краіну свайго пастаяннага месца жыхарства — Узбекістан — я не магу, таму што баюся. Я баюся пераследу праз маю прыналежнасць да пэўнай сацыяльнай групы. Я — трансгендарны чалавек. Я выглядаю як мужчына, і ў мяне мужчынскае імя ў дакументах, але адчуваю сябе жанчынай. Афіцыйна змяніць палавую прыналежнасць у маіх дакументах ва Узбекістане няма ніякай магчымасці, роўна як і атрымаць неабходную медыцынскую дапамогу. У гэтай краіне проста адсутнічаюць спецыялісты неабходнага профілю, і пытанне гендарнага пераходу заканадаўча ніяк не рэгулюецца. Улады і грамадства Узбекістана ставяцца да мяне як да гомасексуальнага мужчыны. Праз гэта я пастаянна сутыкаюся з пераследам з боку праваахоўных органаў і звычайных людзей. Пераслед з боку сілавікоў — гэта поўнае свавольства, злоўжыванне ўладай, парушэнне закона.

У той жа час у Крымінальным кодэксе Узбекістана ёсць артыкул, дзе гаворыцца, што задавальненне палавой патрэбы мужчыны з мужчынам без гвалту караецца абмежаваннем волі ад 1 да 3 гадоў альбо пазбаўленнем волі да 3 гадоў. Гэты артыкул актыўна прымяняецца ва Узбекістане, у тым ліку і да такіх людзей, як я. Пакуль я жыла ва Узбекістане, мяне некалькі разоў затрымлівалі супрацоўнікі паліцыі, збівалі, патрабавалі выдаць адрасы месцазнаходжання іншых ЛГБТ-людзей, пагражалі прыцягнуць мяне да крымінальнай адказнасці. Калі мяне затрымалі ў чарговы раз, адзін супрацоўнік мяне згвалціў.

Грамадства таксама настроенае варожа. Мяне неаднойчы збівала гамафобна і трансфобна настроеная мусульманская моладзь, абражалі, пагражалі забіць. Я проста хачу жыць у бяспецы».

### «Байцы ІДІЛ прыйшлі да мяне дадому і забілі маю маму»

«Я ізідка, прыехала з поўначы Ірака. У нашай мясцовасці жывуць менавіта ізіды, мы адрозніваемся і ад іракцаў, і ад курдаў. У першую чаргу — мовай і рэлігіяй. Наша вера называецца ізідызм. Мы носім сваё адзенне і свой сімвал — камень. Цяпер нам стала цяжка выжываць, таму што мы апынуліся ў самым цэнтры вайны паміж ІДІЛ і курдамі. Нас многія гады намагаліся асіміляваць, але мы захоўваем сваю мову і веру.

У студзені 2017 года Ісламская дзяржава стала наступаць. Яна прасоўвалася ў бок майго паселішча. Сёлы, якія знаходзіліся бліжэй да мяжы з ІДІЛ, былі захопленыя раней. Людзі, якія беглі адтуль, адступалі праз маё паселішча і распавядалі, што там адбываецца.

Нам распавядалі гісторыі, як чальцы ІДІЛ збіваюць, гвалцяць і катуюць менавіта ізідак, таму ва ўсім паселішчы жанчыны пачалі насіць медальёны з ядам, каб у выпадку чаго выпіць яго.

Мы слухалі, баяліся і рыхтаваліся да таго, што нас забяруць. Звычайна ІДІЛ забірала менавіта маладых жанчын і мужчын. Першых забіралі, каб потым прадаваць на рынку як рабынь, а другіх — каб завербаваць ці запатрабаваць вялікі выкуп у сваякоў.

У першы раз байцы ІДІЛ увайшлі ў маё паселішча прыкладна 20–25 студзеня. Да гэтага ў нас былі іх інфарматары, якія ўстанаўлівалі, у якіх дамах жывуць маладыя людзі, каб можна было іх забраць. Калі яны ўвайшлі ў паселішча, то забралі маладых прыгожых людзей да 10 гадоў. Нам, ізідам, яны сказалі, што адзіны шанец застацца жывымі — гэта прыняць іслам. І паставілі сваю базу ў кіламетры ад майго паселішча.

31 студзеня 2017 года я падала дакументы на беларускую візу. А ноччу 3 лютага мы з сяброўкамі збеглі з майго паселішча. Мы многім рызыкавалі і моцна баяліся. Цяпер узгадваю, што мы нават гатовыя былі атруціцца, калі б не атрымалі беларускія візы, — у нас ва ўсіх быў яд. Мы не хацелі трапіць у рукі ІДІЛ, таму што гэта горш за смерць. Але гісторыя на ўцёках не скончылася. Праз чатыры дні пасля таго, як мы з'ехалі, байцы ІДІЛ прыйшлі да мяне дадому і забілі маю маму. Проста застрэлілі. Яна, як і іншыя старэйшыя людзі, заставалася ў сяле, бо спадзявалася, што ІДІЛ іх не кране. Яны верылі, што старыя не цікавяць ІДІЛ, што ім патрэбныя маладыя. Але маму распытвалі, дзе я і мае сяброўкі. А потым забілі. Мяне і цяпер там моцна шукаюць, таму я і прыехала сюды ратаваць сваё жыццё».

### Бежанцы ў Брэсце не адчуваюць сябе ў бяспецы

Кожны месяц у Брэст прыязджаюць 200–300 бежанцаў, якія пастаянна мяняюцца. Большасць спрабуе прарвацца ў Польшчу, хоць ёсць і тыя, хто просіць прытулку тут. Але ў дзяржавы ёсць ліміт колькасці бежанцаў, якіх яна можа прыняць на год. Напрыклад, сёлета гэта 900 чалавек, а прыязджае людзей у чатыры разы больш.

І гэта ўсё роўна значна меншая колькасць, чым тры гады таму, распавяла «Новаму Часу» праваабаронца Эніра Браніцкая. Польскія памежнікі прапускаюць адну-дзве сям'і за дзень. Астатнія жывуць на здымных кватэрах: з'явіліся нават прадпрымальныя брастаўчане, якія спецыялізуюцца на здачы жылля бежанцам і зарабляюць на гэтым немалыя грошы.

— З існуючай у Польшчы ўладай няма спадзеву, што сітуацыя з чачэнскімі бежанцамі зменіцца, — гаворыць Эніра Браніцкая. — Ужо ёсць рэзалюцыя Еўрасаюза на гэты конт — гэта першая рэзалюцыя супраць краіны, дзе сказана, што Польшча парушае правы чалавека і каштоўнасці Еўрасаюза. Але гэта рэкамендацыйны дакумент.

Бежанцы спрабуюць звяртацца і ў Еўрапейскі суд па правах чалавека — толькі пры дапамозе Human Constanta туды было пададзена тры скаргі, але рашэнні па іх пакуль не прынятыя.

За апошні год максімальная колькасць спробаў трапіць з Беларусі ў Польшчу адным чалавекам дасягнула 44. Але раней былі людзі і з 60-цю спробамі.

— Бывала, што і пасля такой колькасці адмоваў урэшце давалі дазвол. Але цягам апошняга года былі праблемы з беларускім бокам. Беларускія ўлады сказалі, што калі людзі робяць больш за 10 спробаў, то гэта нелегальная міграцыя. І мінулым летам пачалі скарачаць тэрмін знаходжання на тэрыторыі Беларусі. Але мы паскардзіліся, і такую масавую практыку прыпынілі, аднак гэта ўсё роўна перыядычна адбываецца. Я магу сказаць, што апошнім часам людзі звычайна прыязджаюць пасля 20-ці спробаў, — дадае Эніра Браніцкая.

Бежанцам у Брэсце праваабаронцы аказваюць не толькі юрыдычную, але і гуманітарную дапамогу, да якой просяць далучацца ўсіх ахвотных. Гэта можа быць усё што заўгодна: адзенне, ежа, дзіцячыя цацкі, грошы. Таксама можна дапамагчы асабістым удзелам: прыехаць і пагуляць з дзецьмі, правесці воркшоп. Як гэта зрабіць, можна даведацца на сайце Human Constanta.



Фота www.sputnik.by: Дзмітрый Босак

**Усе фота ілюстрацыйныя**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. Херсона-татараў не будзе

На думку навукоўцаў, татары складаюцца з некалькіх субэтнасаў: казанскія татары, сібірскія, астраханскія, крымскія і гэтак далей. У гэтым спісе днямі магла з'явіцца і такая катэгорыя, як «херсонскія татары». У асяроддзі ўкраінскага палітыкуму нарадзілася ідэя стварыць нацыянальную аўтаномію для крымскіх татараў, якія збеглі з Крыма пасля 2014 года, на тэрыторыі Херсонскай вобласці. Нагадаем, што прыкладна ў 2015-м Парашэнка паабяцаў абвясціць Крым Крымска-татарскай аўтаноміяй. Аднак пазней працэс юрыдычнага афармлення затармазіўся з-за шэрагу праблем. Напрыклад, частка палітолагаў непакоіцца, што новы статус Крыма, дзе тытульнай нацыяй з'яўляюцца крымскія татары, аслабіць праўкраінскія настроі крымчанаў (у большасці славянаў). Вырашыць гэтую шараду, падаецца, збіраюцца за кошт Крымска-татарскай аўтаноміі пад Херсонам. Зрэшты, Меджліс — арганізацыя, якая прадстаўляе інтарэсы крымскіх татараў, — ідэю наконт Херсона адхіліў. Як заявіў адзін з лідараў Меджлісу, яны па-ранейшаму аддаюць перавагу Крыму, нават калі гэтая аўтаномія будзе, па сутнасці, дэкларатыўная.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### Германія. Калі паўстала ФРГ?

На мінулым тыдні немцы адзначылі 65-годдзе «Цуду ў Берне». Так называюць нечаканы поспех зборнай ФРГ на чэмпіянаце свету па футболе 1954 года. Сапраўды, тую перамогу можна лічыць цудам, калі прыгадаць, што ў фінале немцы выйгралі ў Венгрыі, якой на групавым этапе разгромна прайгралі з лікам 3:8. Між тым, гісторыкі, рэтраспектыўна аналізуючы рэакцыю краіны на навіны са Швейцарыі, упершыню загаварылі пра тое, каб падправіць дату заснавання ФРГ. На іх думку, афіцыйнае стварэнне ФРГ у 1949 годзе не выклікала вялікага энтузіязму. У вачах немцаў ФРГ выглядала хутчэй як інструмент акупацыйнай адміністрацыі заходніх саюзнікаў. А вось у 1952 годзе, дзякуючы футболу, у праект ФРГ паверылі ўсе. Застаецца згадаць кур'ёз: шмат у чым поспех зборнай у Берне быў забяспечаны тым, што ў дзень фінальнага матчу ішоў дождж, а футбалісты ФРГ гулялі ў спецыяльных красоўках, якія адмыслова для мокрага поля распрацаваў Адольф Даслер, заснавальнік фірмы Adidas. За кошт гэтага немцы апярэджвалі венграў на полі. Так што, магчыма, адраджэнне нямецкай дзяржаўнасці — заслуга Даслера.

**Паводле нямецкай прэсы**

### Казахстан. Домру ў кожны клас!

Прэзідэнт Казахстана Касым-Жамарт Такаеў прапанаваў увесці ў школах рэспублікі ўрокі ігры на домры — музычным інструменце, які лічыцца народным у казахаў. Пра гэта ён заявіў падчас нацыянальнага Дня домры, які адзначаецца ў краіне 7 ліпеня. «Гэты інструмент стаў унікальнай культурнай спадчынай, што аб'ядноўвае ўвесь народ Казахстана. Таму я лічу ўвядзенне ўрокаў ігры на домры ў школах важнай і неабходнай ініцыятывай», — заявіў гарант. Увогуле, Дзень домры з'явіўся ў казахскім календары святаў у 2018 годзе, калі адпаведны закон быў падпісаны Нурсултанам Назарбаевым. Апошні валодае гэтым інструментам, і раней неаднаразова дэманстраваў свае музычныя здольнасці журналістам. У гэтым плане ініцыятыва Такаева, які выконвае, хутчэй, дэкаратыўныя функцыі кіраўніка, не дзіўная. Наўрад ці на гэтым ініцыятывы чыноўнікаў наконт папулярызацыі домры вычарпаюцца. Раней на ўзроўні аблвыканкамаў гучалі заклікі дарыць домру кожнаму народжанаму ў Казахстане.

**Паводле казахскай прэсы**



### ЗША. Талерантныя валасы

Улады Каліфорніі прынялі закон пра забарону дыскрымінацыі па прыкмеце прычосак. Высвятляецца, што шмат жыхароў штату адчуваюць сябе некамфортна праз тое, што носяць нестандартныя фрызуры. У лепшым яны становяцца аб'ектам насмешак, а ў горшым — губляюць месца працы і вучобы. Асабліва пакутуюць аматары афрыканскіх фасонаў. Паводле прынятага закону, тых, каму не падабаюцца дрэды або афрыканскія косы, будуць лічыць расістамі і караць паводле адпаведнага закону. Закон каментуюць па-рознаму. Камусьці ён падабаецца. Нехта лічыць, што дэмакраты, якія кантралююць адміністрацыю штата, проста фліртуюць з афраамерыканскімі выбаршчыкамі напярэдадні прэзідэнцкай кампаніі – 2020. Ёсць і тыя, хто выступае ў ролі аракула, спрабуючы спрагназаваць, чаго яшчэ чакаць ад аматараў палітычнай карэктнасці. Напрыклад, чакаецца забарона дыскрымінацыі па прыкмеце ежы або пастанова, якая прымусіць усіх каліфарнійцаў насіць талерантныя дрэды.

**Паводле амерыканскай прэсы**

# Дэкамунізацыя па-ватыканску

Алег НОВІКАЎ

**Папа Рымскі 70 гадоў таму прыняў незвычайны акт — адлучыў ад царквы ўсіх італьянскіх камуністаў і іх выбаршчыкаў, колькасць якіх у той час на Апенінах вымяралася мільёнамі.**

Як вядома, Італія — вельмі каталіцкая краіна, дзе Касцёл (прынамсі, раней) меў вялікі ўплыў на грамадскія, і ў тым ліку на палітычныя, працэсы. Дастаткова ўзгадаць, што менавіта ў Італіі ўпершыню ў гісторыі каталікі прыйшлі ў палітыку. У 1919 годзе святар Луіджы Струцца заклаў еўрапейскі хрысціянска-дэмакратычны напрамак, стварыўшы Народную партыю Італіі (PPI). За кошт сувязяў з фермерскім і сацыяльным рухам праект Струцца хутка атрымаў сацыяльную базу і, як вынік, галасы.

А вось пасля вайны электаральны бастыён хрысціянскіх дэмакратаў даў расколіну. Шматлікім каталікам пачалі імпанаваць лозунгі мясцовай Кампартыі (PCI), якая зрабіла сабе рэкламу як вядучая партыя антыфашысцкага супраціву. Пасля выхаду з падполля яна стала найбуйнейшай палітычнай партыяй краіны, збіраючы ў саюзе з партнёрамі па Народным Фронце да 30 працэнтаў галасоў.

Не толькі гэта бянтэжыла Ватыкан. Вясной 1949 года ўзмацніўся ціск на царкву ў Чэхаславакіі, дзе камуністы прыйшлі да ўлады раней. Як пазней згадваў сакратар Папы, Пій XII адчуў, што эфектыўнага дыпламатычнага пратэсту з боку Захаду не будзе. На думку Папы, у такіх умовах Царква павінна рыхтавацца да таго, каб супрацьстаяць камунізму не толькі ў непасрэднай сітуацыі, але і ў доўгатэрміновай перспектыве.

Так ці інакш, 28 чэрвеня 1949 года быў прыняты дэкрэт супраць камунізму, які праз два дні асабіста ратыфікаваў Пантыфік. 16 ліпеня тэкст дэкрэту апублікавала «L'Osservatore Romano» — афіцыйнае выданне Ватыкану. Дарэчы, пазней ЦРУ дамагілося ад Канстанцінопальскага патрыярха, каб ён выдаў падобную заяву адносна праваслаўных вернікаў, што падтрымліваюць камунізм.

Змест дакумента і позні каментары да яго нагадвалі лексіку барацьбітоў з эпідэміяй чумы. Менавіта вірусам называлася мода на камунізм, што, маўляў, пранікла ў каталіцкую грамаду. Пазбавіцца вірусу прапаноўвалася медычнымі метадамі — ізаляцыяй хворай часткі цела ад здаровай. На практыцы гэта азначала забарону «кепскім каталікам» кантактаваць з «добрымі каталікамі» і атрымліваць ад царквы паслугі.

Дакумент выклікаў вялікі рэзананс. Напэўна, упершыню пакаранне ў выглядзе адлучэння ад царквы насіла не індывідуальны, а маштабны калектыўны характар. Раней пад гэтую норму траплялі канкрэтныя асобы кшталту маршала Ціта або нейкія сектанты.

Спачатку падавалася, што камуністам прыйшоў канец. Усе паслядоўнікі Леніна — Сталіна

**Менавіта вірусам называлася мода на камунізм, што пранікла ў каталіцкую грамаду. Пазбавіцца вірусу прапаноўвалася медычнымі метадамі — ізаляцыяй хворай часткі цела ад здаровай**

павінны былі ператварыцца ў нейкіх сацыяльных маргіналаў. Касцёл на той час выконваў, акрамя ўсяго, важныя сацыяльныя функцыі: нельга было ўявіць шлюбнай цырымоніі па-за Касцёлам або пахаванне без прысутнасці святара.

Аднак у выніку суровасць і катэгарычнасць пастановы зрабіла дакумент малаэфектыўным. Па-першае, пад дэкрэт спачатку траплялі ўсе, хто галасуе за камуністаў (прыкладна 2,5 мільёна чалавек). Аднак камуністы ішлі на выбары ў складзе шырокай кааліцыі, куды ўваходзілі больш памяркоўныя партыі. Каб не згубіць гэтую фракцыю каталікоў, Ватыкану давялося выдаваць дадатковыя тлумачэнні. Ужо 27 ліпеня з'явіліся афіцыйныя каментары, паводле якіх ад царквы адлучаліся выключна заўзятыя матэрыялісты. Між тым, усім было зразумела, што тыя і так на набажэнствы не ходзяць.

Па-другое, на месцах пачаўся ціхі сабатаж дэкрэту, які патрабаваў ад святароў запытвацца ў наведвальнікаў набажэнстваў пра іх палітычныя погляды. Святары вельмі баяліся, што такі суровы падыход скароціць колькасць паствы. З'явіліся і першыя дысідэнты. Напрыклад, архібіскуп Фларэнцыі раскрытыкаваў ідэю «дэкамунізацыі», заявіўшы, што «большасць адлучаных — сціплыя людзі, якія наведвалі нашы цэрквы больш-менш старанна». У выніку ўжо 11 жніўня ў Ватыкане дазволілі заключаць шлюбы для сімпатызантаў любых партый. На гэтым, фактычна, Крыжовы паход і скончыўся.

Праўда, гісторыя не засталася без наступстваў. Выклік камунізму прымусіў Ватыкан заняцца распрацоўкай сацыяльнай дактрыны каталіцызму. У сваю чаргу, камуністы заявілі, што яны — самыя лепшыя каталікі, і пачалі актыўна штудзіраваць Біблію, каб з часам стварыць вучэнне «Тэалогія вызвалення».

Нарэшце, дэкрэт Папы Рымскага 1949 года стаў нагодай для стварэння цудоўнай камедыі «Маленькі свет Дона Каміла» з удзелам легендарнага французскага коміка Фернандэля. Апошні выконвае ролю біскупа вёсачкі, дзе набірае ўплыў мясцовы асяродак PCI. Вясёлае супрацьстаянне біскупа і мэра-камуніста заканчваецца прымірэннем. Цяпер, на фоне паслаблення ў Італіі пазіцый Касцёлу і амаль поўнай маргіналізацыі PCI, гэтая сцэна выклікае нават нейкі флёр настальгіі.



Фота www.pikabu.ru



Фота www.donetsk.kp.ru

# Рада або эстрада?

Алег НОВІКАЎ

**Шмат хто ва Украіне называе выбары парламента 21 ліпеня выбарамі ў Вярхоўную эстраду. Усё з-за колькасці прадстаўнікоў шоу-бізнесу ў выбарчых спісах.**

Оперны саліст Дзмітрый Гнацюк, акардэаніст Ян Табачнік, спявак Віктар Паўлік, рокер Святаслаў Вакарчук і нават топ-мадэль, «Міс Сусвет–2007» Юлія Гершун. Што агульнага паміж гэтымі прадстаўнікамі ўкраінскай багемы? Правільны адказ — жаданне атрымаць дэпутацкі мандат у Вярхоўнай Радзе будучага склікання.

Такое багацце артыстаў у спісах у адных выклікае замілаванне, а ў іншых — трывогу. На думку скептыкаў, дамінаванне пэўнай прафесійнай катэгорыі сярод дэпутатаў прынцыпова не азначае якасны парламент. На выбарах пяцігадовай даўніны сярод выбаршчыкаў быў запыт на камуфляж — усе імкнуліся займець у сваім выбарчым спісе героя АТА або ўдзельніка Самаабароны Майдану. У выніку Вярхоўная Рада колеру хакі аказалася самай непапулярнай за ўсю гісторыю ўкраінскага парламентарызму, маючы ў апошнія пару гадоў чатыры працэнты даверу.

Яшчэ большы канфуз можа чакаць Вярхоўную Раду менестрэляў і скамарохаў. Першыя публічныя выказванні кандыдатаў ад шоу-бізнесу шакуюць сваёй палітычнай непісьменнасцю і махровым папулізмам. Напрыклад, вядомы ў мінулым гулец данецкага КВЗ, а цяпер кандыдат ад «Слугі народа» Сяргей Сівоха так фармулюе праграму вяртання раёнаў, некантраляваных Кіевам: «Трэба стварыць усе ўмовы для вяртання Данбаса». Вось такі геніяльны план.

Дый што ўжо казаць, калі ў офісе прэзідэнта сталіцай Канады называюць Таронта, а сам Уладзімір Зяленскі, які намінаваў прыгожых жанчын брэндам Украіны, шакаваў Еўропу. Многія еўрапейскія лэдзі ўбачылі ў гэтым рэкламу прастытуцыі.

Скепсіс адносна якасці новага парламента ўзмацняе тое, што некаторыя артысты ўжо спрабавалі сябе ў вялікай палітыцы і, як правіла, беспаспяхова. У 2007-м годзе спявачка Руслана Лыжэчка склала дэпутацкія паўнамоцтвы, назваўшы тое, што адбываецца ў Радзе, «клаўнадай і цыркам». Падобны дэмарш паўтарыла ў 2015 годзе яе калега Злата Огневіч і аргументавала свой учынак: «Як культурны дзеяч, не бачу сэнсу ў дэпутацтве». Успамінаецца 2008 год, калі Святаслаў Вакарчук склаў дэпутацкія паўнамоцтвы, таму што «не хацеў страціць сябе».

Нарэшце, артыстам уласцівая фантастычная эластычнасць палітычных поглядаў. Напрыклад, спявак і рэктар Міхаіл Паплаўскі, які зараз ідзе ў спісе ад аграрыяў, паспеў за апошнія тры дэпутацкія кадэнцыі пабываць у сямі партыйных фракцыях. Прычым ён неяк прымудрыўся нават пераскочыць з аранжавай «Нашай Украіны» ў «Працоўную Украіну», якая блакавалася з Януковічам.

Парадаксальна, але ўсе гэтыя гісторыі мала бянтэжаць публіку. Палітолагі чакалі сур'ёзнага абвалу рэйтынгу партыі Вакарчука «Голас» пасля таго, як яе лідар у адным з ток-шоу жудасна аскандаліўся — у рамках дэбатаў па праблемах камуналкі не змог назваць цану на газ. У выніку папулярнасць «Голасу» сапраўды трохі прасела, але не катастрафічна. Нягледзячы на дзяжурныя нязграбныя заявы Зяленскага, утрымлівае высокі працэнт і праект «Слуга народа».

Гэты феномен можна растлумачыць па-рознаму. Напрыклад, тым, што прыхільнікі (і асабліва прыхільніцы) заўсёды адданыя свайму куміру. Але ёсць і іншы пункт гледжання. Магчыма, мы назіраем ірацыянальную рэакцыю грамадства на эрозію традыцыйнага кіруючага класа Украіны. Кіруючая эліта за дваццаць гадоў цалкам дэградавала і загразла ў карупцыі. Даверу да іх ужо няма. А паколькі натуральнае абнаўленне эліты праз партыйныя механізмы, як на Захадзе, ва Украіне немагчыма, у якасці альтэрнатывы выступаюць тыя, хто хоць неяк медыйна раскручаны. У нашым выпадку — артысты.

Паводле гэтай логікі, у хуткім часе краіну напаткае кіраўнічы параліч, які ажывіць вуліцу. Далей можна чакаць чаго заўгодна — ад таго, што Захад дасць прэзідэнту карт-бланш на зачыстку радыкалаў, да фармавання альтэрнатыўных цэнтраў улады ў рэгіёнах.

Аптымісты, наадварот, бачаць у радыкальным абнаўленні (няхай нават у выглядзе навалы трубадураў) шанец на разрыў з постсавецкай мадэллю Украіны, галоўным маркёрам якой была палітычная карупцыя. На іх думку, на гарызонце з'яўляюцца контуры новай, чацвёртай па ліку ўкраінскай рэспублікі, пабудаванай паводле новага канцэпту: грамадзянін — не раб дзяржавы, а кліент, якому дзяржава аказвае паслугі.

Сваю думку пра тое, што чакае Украіну з парламентам трубадураў, «Новаму Часу» выказаў кіеўскі палітолаг Юрый Палянін. Паводле яго меркавання, у выніку паходу ва ўладу артысты вельмі хутка страцяць рэпутацыю і глянец, паколькі галасаваць ім давядзецца за вельмі непапулярныя законы. Дастаткова згадаць толькі ідэю продажу зямлі, якую пастаянна агучваюць спікеры Зяленскага. «Што тычыцца лёсу краіны ў цэлым, то хуткі параліч улады нам таксама не пагражае. Для гэтага патрэбны хаця б год-паўтара. Між тым, ужо ўвосень многія прагназуюць сур'ёзны крызіс з-за чаканай хвалі расчаравання праектам "Слуга народа". Нездарма нацыяналісты ўжо анансавалі на восень сваю рэвалюцыю. Рэвалюцыі, канешне, наўрад ці варта чакаць, а вось пертурбацыі на палітычным полі непазбежныя. Давядзецца адаптавацца пад новыя рэаліі і дэпутатам-артыстам. І гэта будзе такі цырк-шапіто, які ў "95-м квартале" вы нават не пабачыце».

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Дональд Трамп



Прэзідэнт ЗША, вядомы сваім скандальным палітычным стылем, нажыў сабе яшчэ аднаго ворага — аматараў вязання!

7 ліпеня апошнія пастанавілі, што будуць блакаваць любыя спробы рэкламы Трампа на сваёй інтэрнэт-платформе Ravelry. «Мы не можам быць платформай, якая хоча адначасова быць для ўсіх, і ў той жа час дапускаць адкрытую падтрымку перавагі белых амерыканцаў. А падтрымка дзейнага прэзідэнта, несумненна, з'яўляецца падтрымкай перавагі белых. Мы не выганяем рэспубліканцаў, але выступаем супраць нянавісці і нецярпімасці», — тлумачаць сваё рашэнне аматары іголак і нітак.

Пагроза можа здацца камічнай, калі не ведаць некаторых абставін. Аматары вязання — вельмі масавая арганізацыя, якая налічвае больш за 8 мільёнаў чальцоў. Яны аказваюць уплыў на ўладальнікаў тэкстыльных кампаній, а бізнес з'яўляецца асноўнай крыніцай бюджэту выбарчых штабоў. Застаецца пачакаць, каб ацаніць эфект заяваў аматараў вязання.

Дарэчы, заявы супраць Трампа становяцца модай сярод арганізацый, якія займаюцца вольным часам амерыканцаў. Раней Трампа раскрытыкавала асацыяцыя аматараў ролевых гульняў, якія гуляюць у міфічных персанажаў накшталт гномаў ці хобітаў. Яны мяркуюць, што абразы Трампа на адрас апанентаў з'яўляюцца, па сутнасці, абразамі ўсіх, хто адыходзіць ад нормы, у тым ліку тых жа гномаў.

### Мая Санду



Прэм'ерка Малдовы і яе міністры вырашылі прадаць частку краіны суседняй Украіне. А дакладней, аддаць у арэнду Кіеву на 49 гадоў правы (малдоўскі) бераг Днястра.

Лічыцца, што такая саступка паўплывае на планы Кіева па будаўніцтве ў вярхоўях Днястра каскаду з шасці гідраэлектрастанцый. Рэалізацыя гэтага плана прывядзе галоўную раку Малдовы і Прыднястроўя да сапраўднай экалагічнай катастрофы. У 2016 годзе Днестр у Малдове па гэтай прычыне ўжо звужаўся да метра, а катастрофы ўдалося пазбегнуць, дзякуючы своечасовым дажджам.

Каб не дапусціць рымейкаў 2016-га ў будучым, Кішынёў гатовыісці на саступкі. На практыцы гэта азначае наступнае: Малдова пазбаўляецца права водакарыстання са сваёй тэрыторыі, якая выходзіць на буфернае вадасховішча, паколькі ўвесь малдаўскі бераг будзе аддадзены Украіне ў арэнду на 49 гадоў. Акрамя таго, праект дамовы не прадугледжвае ніякіх механізмаў па кампенсацыі Малдове выдаткаў у сувязі з функцыянаваннем украінскага гідракомплексу.

Цікава, што малдаўская грамадскасць досыць спакойна паставілася да новай «Аляскі». Мяркуючы па ўсім, людзі ўсё яшчэ ахоплены эйфарыяй, выкліканай нядаўнімі ўцёкамі алігарха Улада Плахатнюка, які падмяў пад сябе ўсю краіну. У сваю чаргу, эколагі мяркуюць, што калі ў Малдовы ўжо ёсць беспрэцэдэнтны вопыт падтрымкі Расіі, ЕС і ЗША барацьбы з алігархатам, то чаму б шляхам дагавораў і саступак не паспрабаваць вырашаць праблемы прыроды.

### Сі Цзіньпін



Заходняя прэса ўсклала на кіраўніка Кітайскай народнай рэспублікі (КНР) і лідара мясцовай кампартыі адказнасць за адраджэнне цэнзуры ў кітайскім кіно.

Пачалося з таго, што ў чэрвені арганізатары міжнароднага кінафестывалю ў Шанхаі знялі з праграмы фільм «Васемсот», а 7 ліпеня фільм не выйшаў у кітайскі пракат. На думку кінакрытыкаў, гэта здарылася з-за фабулы карціны, якая распавядае пра адзін з эпізодаў кітайска-японскай вайны. Па сюжэце, група кітайскіх салдат гераічна спрабуе стрымаць японцаў. Праблема ў тым, што салдаты служаць у арміі Чан Кайшы, які ў той час таксама змагаўся з атрадамі Маа Цзэдуна.

Такім чынам, згодна з логікай кітайскіх цэнзараў, атрымліваецца, што фільм усслаўляе ворагаў КНР.

Паколькі на здымкі фільма было выдаткавана 800 мільёнаў долараў з дзяржбюджэту, відавочна, што рашэнне пра забарону «Васемсот» прымалася на вельмі высокім узроўні. Гэта гісторыя стала пралогам для новай хвалі цэнзуры. На гэтым тыдні з раскладаў кітайскіх кінатэатраў знікла моладзевая драма «Лепшыя дні», а рэкламу яшчэ аднаго фільма запатрабавалі перарабіць.

Зрэшты, кітайскі афіцыёз піша, што нічога страшнага не адбылося. Той жа фільм «Васемсот» вернецца на экраны восенню пасля невялікай дапрацоўкі. Хутчэй за ўсё, сярод герояў карціны з'явіцца перакананы камуніст, фанат Маа.

# Кобрынскія замалёўкі:

Марат ГАРАВЫ

**Гэтыя вандроўкі па слядах Рамуальда Траўгута ў Кобрыне даліся няпроста і занялі шмат часу. Каб вылучыць прысутнасць нашага героя ў мінуўшчыне слаўнага горада, давялося расшукваць і дазнавацца, сустракацца з рознымі людзьмі, урэшце ўсё сабранае прааналізаваць і спраўдзіць. Мяркую, што выкладзенае — адна з мажлівых версій, якая будзе ўдакладняцца і пашырацца.**

Для напісання артыкулу выкарыстаныя публікацыі шэрагу гісторыкаў і краязнаўцаў, у тым ліку светлай памяці Ніны Марчук, а таксама Юрыя Барысюка, Дзяніса Жыгаўца, Алеся Ільіна, Льва Казлова, Алега Карповіча, Лявона Карповіча, Змітра Матвейчыка, Ігара Мельнікава, Евы Міхалоўскай-Валкевіч, Леаніда Несцерчука, Вячаслава Шведа і Міхала Штэлмаха. За дапамогу ў падрыхтоўцы публікацыі выказваю шчырую падзяку кабрынчанам Алесю Меху, Віктару Пацыюку, Ірыне Сіманавай і Аляксандры Тэлеман.



Падпалкоўнік Рамуальд Траўгут (здымак 1862 года)

## Захаваўся абраз, якім Траўгут асвячаў паўстанцаў

У доме легендарнай кабрынчанкі Арыядны Тэлеман (1915–2012) захоўваецца ўнікальная святыня — друкаваная выява абраза Маці Божай Вастрабрамскай, якой у 1863 годзе Рамуальд Траўгут асвячаў Кобрынскі паўстанцкі атрад перад баямі.

Пра гісторыю з'яўлення святыні ў радавым доме распавяла дачка Арыядны Тэлеман спадарыня Аляксандра:

«Маці паходзіць з роду актыўных удзельнікаў нацыянальна-вызвольнага паўстання супраць расійскага самаўладдзя 1863–1864 гадоў, сасланых у Сібір. У міжваенны час маці са сваякамі жыла ў вёсцы Ягалкі на паўднёвы захад ад Кобрына. Падчас Другой сусветнай вайны была сувязной Арміі Краёвай. Яе байцы, з'яднаныя ўзброенай барацьбой супраць Нямеччыны і СССР, кіраваныя польскім эмігранцкім урадам у Лондане, з вялікай пашанай ставіліся да пані Арыядны і называлі яе «маткай», бо падпольшчыкі ведалі, што ў яе двары ў вёсцы Барысава на паўднёвы ўсход ад Кобрына заўжды знойдуць надзейны і бяспечны прытулак. Менавіта за падтрымку Арміі Краёвай бацькі па вайне былі сасланыя Саветамі ў Казахстан. Толькі праз восем гадоў яны вярнуліся на Бацькаўшчыну, дзе сталі адраджаць мясцовую рыма-каталіцкую парафію.

Выява абразу Маці Божай Вастрабрамскай захоўваецца ў нашай сям'і з часоў паўстання 1863–1864 гадоў. Вядома, што наш продак па лініі маці прозвішчам Цывінскі меў два маёнткі каля Луцку на Валыні. За дастаўку фуражу і харчоў атраду Рамуальда Траўгута падчас яго змагання з царскімі карнікамі на Валыні маёнткі Цывіньскага былі канфіскаваныя. А сам ён быў вымушаны з'ехаць у Каменец (сучасны раённы цэнтр на Брэстчыне), дзе заняўся земляробствам. Заўжды з ім быў абраз Маці Божай Вастрабрамскай — падарунак Рамуальда Траўгута за дапамогу паўстанцам. Потым святыня перахоўвалася ў сям'і маёй прабабкі Паўліны Цывіньскай-Кіскевіч, якая жыла ў Каменцы і пабралася шлюбам з ураджэнцам Францыі спадаром Кіско, што на пачатку мінулага стагоддзя прыехаў на Брэстчыну з гораду Булонь-сюр-Мэр у графстве Булонь аднаўляць знакамітую Камянецкую вежу.

На пачатку 1930-х гадоў абразом стала апекавацца мая маці. Нявеста з вялікім пасагам (90 гектараў зямлі), яна ў 1940 годзе пабралася шлюбам са Станіславам Тэлеманам. Каб у нашым краі прыдбаць сабе багацце, ён і прыехаў з Польшчы на Палессе. Пасля вяртання бацькоў з ГУЛАГу нашая сям'я жыве ў старым, амаль 300-гадовага веку, доме ў Кобрыне па вуліцы Першамайскай, які заўжды належаў мясцовай рыма-каталіцкай парафіі Спачыну Найсвяцейшай Панны Марыі. Маці была сапраўднай вернікай і адданай патрыёткай краю, чалавекам адважным і адкрытым, пратэставала супраць закрыцця касцёлу ў 1962-м, потым захоўвала парафіяльныя святыні і памяць пра мясцовую каталіцкую грамаду.

На пачатку 1990-х гадоў, калі ўзнаўляўся амаль цалкам разбураны за Саветамі касцёл, што быў скарыстаны пад склад сыравіны мясцовай швейнай фабрыкі, нашая сям'я не толькі выдаткавала на адраджэнне храма немалыя па тым часе грошы — 3 тысячы рублёў, — але і жытло аддала пад набажэнствы. Узгадваю, як яны ўрачыста вяліся пад парашутным шоўкам каля нашай сямейнай рэліквіі — абразу Маці Божай Вастрабрамскай, што столькі гадоў таму трымаў у сваіх руках наш нацыянальны герой Рамуальд Траўгут. Гэтыя імшы былі асабліва кранальныя і натхняльныя...

Мабыць таму і мой брат, Генрык, які з залатым медалём скончыў Кобрынскую сярэднюю школу №2, а затым факультэт псіхалогіі Маскоўскага дзяржуніверсітэта, урэшце абраў святарскае служэнне пасля атрымання адпаведнай духоўнай адукацыі спачатку ў Рызе (Латвія), а затым у Драгічыне-над-Бугам (Польшча). Дарэчы, на святарства Генрыка пасвяціў першы беларускі каталіцкі кардынал Казімір Свёнтак.

Ксёндз Генрык выкладаў псіхалогію ў Міждыяцэзіяльнай вышэйшай духоўнай семінарыі імя святога Тамаша Аквінскага ў Пінску, нёс святарскае служэнне ў парафіях вёскі Асавая Столінскага раёна, Століне і Пінску».

## Да Траўгута пайшла ўся шляхта

25 красавіка 1863 года Рамуальд Траўгут пад мянушкай Кракаўскі ўзначаліў Кобрынскі паўстанцкі атрад і кіраваў ім больш за два месяцы.

Да яго ў Кобрынскую пушчу, дзе ў лесе Цемра (зараз на паўночна-ўсходнім ускрайку Кобрынскага раёна) збіраліся касінеры, пайшла ўся маладая кобрынская шляхта разам са сваёй службай. Сярод паўстанцаў былі прадстаўнікі вядомых родаў — графаў Чапскіх і Ажароўскіх, абшарнікаў Радзевічаў, Ягмінаў, Ажэшкаў, Радавіцкіх, Бохвіцаў, Пуслоўскіх і Корсакаў.

Былі і жанчыны. Так, маці вядомай пісьменніцы Марыі Радзевіч Амелія ўратавала Рамуальда Траўгута, бо забіла казака, які гнаўся за камандзірам кобрынскіх інсургентаў, была пакараная сібірскай ссылкай, але атрымала адтэрміноўку па цяжарнасці. Загінула ў баі памешчыца Магдалена Волкава, былі сасланыя ў Сібір Ядвіга і Стэфанія Завадскія, а таксама Караліна Станішэўская.

Сярэдні ўзрост чальцоў атраду са 192-х чалавек складаў усяго 23 гады, сярод касінераў было шмат 15–17-гадовых юнакоў і вельмі мала былых ваенных — Густаў і Пётр Радавіцкія, Фелікс Ягмін, Антоні Сямашка, Казімір Асоўскі і Браніслаў Парчэўскі.

Таму на афіцэрскія пасады Траўгут прызначыў шэраг лясных стражнікаў і павёў свой атрад на паўднёвы ўсход — у самы аддалены, лясісты і балоцісты кут Кобрынскага павету (зараз у Любяшоўскім раёне Валынскай вобласці Украіны). Ва ўрочышчы Цюцькава паўстанцы вучыліся стральбе і тактыцы бою, рыхтавалі зброю. Потым былі шматлікія сутычкі з царскімі карнікамі, бліскучыя перамогі і жорсткая параза 13 (25) траўня 1863 года ў Оўзіцкім лесе (зараз у Іванаўскім раёне Брэстчыны). Атрад згубіў забітымі ад 13 да 21 паўстанца і паранenымі 5 касінераў.

Праз тыдзень у Кобрын пад канвоем прывялі параненых і палонных інсургентаў. Сярод іх былі дваране Каэтан Дабравольскі, Антоні і Станіслаў Ліпінскія, Ян Пятроўскі, Альбін Маржэцкі, Стэфан Сялюта, Люцыян Стаброўскі, Юзаф Фалькоўскі, Вікенці Хоміч, Рыгор Снягурскі, Юліян і Юзаф Гродзкія, Аляксандр Верашчака, Павел Юр'евіч, Уладзіслаў Анджыеўскі, абшарнікі Густаў Радавіцкі, Павел Шыраеў і Фелікс Ягмін, падпаручнік у адстаўцы Казімір Асоўскі, юнкер Антоні Сямашка, шляхціч Адам Дашкевіч, доктар Уладзіслаў Горніч, сяляне Павел Тарасевіч, Леон Барушка, Тэадор Вароцін і Ян Цымбашэўскі, мяшчанец Антон Рудзінскі і грамадзянін Прусіі Тэафіль Гіль.

Пасля гэтай паразы атрад невялікімі групамі перайшоў у Белінскія лясы (зараз у Драгічынскім раёне), куды праз гандляра Іцку Кучэрэна дастаўлялі зброю і амуніцыю. Адсюль злучэнне атрадаў Яна Ваньковіча-Лялівы і Рамуальда Траўгута пад яго кіраўніцтвам рушыла ў бок Століна. Падчас рэйду Траўгут усюды абвяшчаў вызваленне сялян і надзяленне іх зямлёю, заклікаючы да барацьбы за свабоду. Аднак з кожным днём сітуацыя пагаршалася, бо не хапала харчоў і зброі, карнікі ішлі па пятах, а мясцовае насельніцтва ставілася да інсургентаў варожа. Пасля апошняга бою 12–13 ліпеня пад Калодным (зараз у Столінскім раёне), дзе паўстанцы страцілі 30 чалавек, Рамуальд Траўгут вырашыў распусціць атрад і загадаў паплечнікам паасобку прабівацца ў Белавежскую пушчу...

Апроч атрада Рамуальда Траўгута, у Кобрынскім павеце падчас паўстання дзейнічалі атрады Рамана Рагінскага, Фелікса-Адама Влодзка і Казіміра Нарбута. Усяго ў паўстанні прынялі ўдзел 247 жыхароў Кобрынскага павету. Сярод іх было 173 дваранаў, абшарнікаў і шляхціцаў, 36 сялянаў, 21 чыноўнік, 5 гімназістаў, 5 гараджанаў, сацыяльны статус 7 чалавек не вызначаны.



Ля касцёла спачываюць палеглыя і забітыя ў верасні 1939-га, у тым ліку Людвік Ліпа, Станіслаў Матыка, Эварыст Зайкоўскі і Тадэвуш Зялінскі




На калоне касцёла Спачыну Найсвяцейшай Панны Марыі ў Кобрыне ўсталяваная мемарыяльная дошка ў гонар Рамуальда Траўгута

Для параўнання: 289 сялянаў — жыхароў Кобрынскага павету — былі ўзнагароджаныя медалямі за дапамогу ўладам задушыць паўстанне.

Паводле Льва Казлова, пасля паразы паўстання экзекуцыі над інсургентамі ў Кобрыне адбываліся на полі ля гародаў па вуліцы Балоцкай (сучаснай Чырвонаармейскай) на ўчастку ад ракі Кобрынкі да ліцейкі былога Кобрынскага рамонтнага заводу. Сярод тых, каму прысудзілі шыбеніцу, былі шляхціц Фелікс Пятроўскі і селянін Фелікс Грушэўскі. Шэраг паўстанцаў, у тым ліку і Фелікс Ягмін, былі пакараныя сібірскай катаргай.

Прысудамі ваенна-палявога суда ў Кобрыне за ўдзел у паўстанні былі сасланыя ўглыб імперыі дзясяткі чалавек, у якіх канфіскавалі і выставілі на абавязковы продаж маёнткі, у тым ліку Антопаль (зараз у Драгічынскім раёне) графа Казіміра Ажароўскага, Хараўшчызну (зараз у Пружанскім раёне) і Малышы Юзафа Жардзецкага, Хлевішча (зараз у Драгічынскім раёне) Віктара Віславуха, Дзівін Паула Ягміна, Ляпёсы Сямёна Гутоўскага, Навасёлкі Клеафаса Мыслоўскага, Людвінава (зараз у Драгічынскім раёне) Пятра Ажэшкі, Стрэльню (зараз у Іванаўскім раёне) Аляксандра Сулкоўскага, Дзераўну (зараз у Драгічынскім раёне) Стэфаніі Завадзкай, Адамава (зараз у Драгічынскім раёне) Кастуся Крашэўскага, Паўлапаль (зараз у Маларыцкім раёне) Браніслава Кайшэўскага, Жукаўцы Рафаіла і Бярнарда Івашкевічаў, Патрыкі Адама Радавіцкага, Вінцэ (зараз у Пружанскім раёне) Бенедыкта Даноўскага, Косічы (зараз у Брэсцкім раёне) Мікалая Боржыма, Кашывала (зараз у Брэсцкім раёне) Караліны Станішэўскай, Дзеткавічы (зараз у Драгічынскім раёне) Густава Радавіцкага, Рачкі (зараз у Пружанскім раёне) Апалінарыя Радавіцкага.

Пасля таго, як хворы і стомлены Рамуальд Траўгут, хаваючыся ад жандараў, трохі падлячыўся і адпачыў у Заказелі і Людвінаве (зараз у Драгічынскім раёне), Эліза Ажэшка ў сваім вазку пад выглядам хворага на тыф стрыечнага брата вывезла камандзіра кобрынскіх паўстанцаў на мяжу з Царствам Польскім. У Варшаве Рамуальд Траўгут атрымаў званне генерала, выправіўся ў Парыж на перамовы пра падтрымку паўстання, за-

# па слядах Рамуальда Траўгута



**Былая вуліца Траўгутава ў Кобрыне (сучасная імя Аляксандра Суворава)**

тым прыняў пасаду дыктатара пад мянушкай Міхал Чарнецкі. Менавіта на гэтай пасадзе наш герой зацвердзіў Кастуся Каліноўскага кіраўніком паўстання ў Літве.

## Краем параднёныя

У цэнтры старой часткі каталіцка-праваслаўных могілак Кобрына каля лініі Палескай чыгункі на вуліцы Нікольскай знаходзіцца сямейнае пахаванне Касцюшкаў-Сехнавецкіх — прадстаўнікоў старадаўняга беларускага шляхецкага роду гербу «Рох-III», які паходзіў з маёнтку Сяхновічы Кобрынскага павету (зараз у Жабінкаўскім раёне Брэстчыны).

На скрайняй справа пліце пахавання пазначана, што пад ёю ляжыць Антаніна Касцюшкава-Траўгутава-Міцкевічава, якая пайшла ў лепшы свет 6 кастрычніка 1906 года. Антаніна — другая жонка Рамуальда Траўгута, траюрадная пляменніца Тадэвуша Касцюшкі — нацыянальнага героя Беларусі, Польшчы і ЗША, ганаровага грамадзяніна Францыі, кіраўніка нацыянальна-вызвольнага паўстання 1794 года «за непарушнасць межаў дзяржавы, устанаўленне самаўладдзя народа і ўсеагульную свабоду».

Рамуальд і Антаніна пабраліся шлюбам 13 чэрвеня 1860 года ў доме на вуліцы Клапоцын у Кобрыне (сучасная вуліца Піянерская) праз паўгода пасля смерці першай жонкі нашага героя ў снежні 1859 года. Той год і пачатак наступнага былі, бадай, найцяжэйшымі ў жыцці Рамуальда Траўгута. Адзін за адным адышлі ў вечнасць яго самыя блізкія і любыя — спачатку бабуля Юстына Блоцкая з Шуйскіх, якая з маленства замяняла яму памерлую маці, выхоўвала ў свайго ўнука пачуццё патрыятызму, цвёрдую веру і набожнасць, затым маленькая дачушка Юстына, каханая жоначка Ганна і адзіны сынок Конрад…

А калі ў лютым 1860 года памёр хросны бацька, брат бабулі Юстыны Віталіс Шуйскі, які валодаў маёнткам Востраў у Кобрынскім павеце (зараз вёска Астроўе ў Маларыцкім раёне), падпалкоўнік сапёраў расійскай арміі, удавец Рамуальд Траўгут выехаў у Кобрын для вырашэння сваіх асабістых справаў, у тым ліку спадчыны і выхаду ў адстаўку, бо апроч яго не было каму клапаціцца пра выхаванне дачок — Ганны (1853 года нараджэння) і Алаізы (1857 года нараджэння).

Аднак знаёмства і шлюб з Антанінай Касцюшка змянілі да лепшага жыццё Рамуальда Траўгута — жонка чула і пяшчотна апекавалася яго дачушкамі, нарадзіла яму сына Рамана. Сям'я пераехала ў Востраў, дзе адстаўны вайсковы інжынер прысвяціў сябе родным, дому і навуцы. У сваім маёнтку Рамуальд Траўгут шчасліва жыў з сям'ёй амаль год да той пары, пакуль ад запалення лёгкіх не памёр яго двухгадовы сынок Раман.

Хлопчык быў пахаваны каля фамільнага склепу Пашкевічаў на старых каталіцкіх могілках Кобрына між касцёлам Спачыну Найсвяцейшай Панны Марыі і Свята-Петра-Паўлаўскай царквой (на сучаснай вуліцы Першамайскай). Пра гэта сведчыць надпіс на мармуровай пліце-надмагіллі, што захавалася. За Саветамі гэтую пліту разбілі мясцовыя вандалы дзеля свінцу, якім быў заліты тэкст з імёнамі памерлых. Пасля адраджэння касцёлу асноўную частку пліты замацавалі на паўночнай сцяне храма, а адбітыя два фрагменты надмагілля знайшоў і перадаў каталіцкай грамадзе мясцовы краязнаўца…

У Востраве Траўгут даў згоду ўзначаліць Кобрынскі паўстанцкі атрад, адсюль пайшоў у змаганне за волю і незалежнасць краю. Пасля таго, як 5 жніўня 1864 года ён быў пакараны смерцю на шыбеніцы, яго маёнтак Востраў канфіскавалі і распрадалі. Удава з дочкамі пераехала ў Кобрын на вуліцу Клапоцын. Праз восем гадоў Антаніна пабралася шлюбам з пляменнікам Адама Міцкевіча Францішкам, які разам з бацькам дапамагаў паўстанню. Сям'я пасялілася ў былой кобрынскай сядзібе расійскага фельдмаршала Аляксандра Суворава (на сучаснай вуліцы ягонага імя, у міжваенны час называлася Траўгутава), якую прыдбаў родны брат Адама Міцкевіча, былы прафесар права Харкаўскага і Кіеўскага ўніверсітэтаў Аляксандр Міцкевіч.

Адзін з пакояў гэтай сядзібы Антаніна прысвяціла памяці свайго першага мужа Рамуальда Траўгута. Сярод яго асабістых рэчаў і іншых памятак там захоўваліся апошнія лісты. У развітальным лісце ад 27 чэрвеня 1864 года з камеры смяротнікаў Траўгут называе жонку «мой Скарб найдаражэйшы» і піша ёй, што «адзіным суцяшэннем» для сябе лічыць наступнае: «Бог, хоць пра шчасце нашае часовае памятае, перш за ўсё мае на мэце нашае вечнае шчасце, для якога нас стварыў і прызначыў…».

Знаёмства з жыццяпісамі нашага героя і Тадэвуша Касцюшкі наводзіць на думку, што апошні быў узорам для Рамуальда Траўгута. Насамрэч, з расповедаў бабулі Юстыны, яе ўнук з маленства дазнаўся пра лёс свайго земляка. Хлопчык асабліва ганарыўся тым, што яго дзед, капітан пяхоты Якуб Траўгут, у паўстанні 1794 года атрымаў асабістую падзяку ад Касцюшкі. Можа таму і сам Рамуальд Траўгут стаў ваенным інжынерам.

## Супраць бальшавікоў і нацыстаў

Гісторыя 83-га пяхотнага палка імя Рамуальда Траўгута пачынаецца ў 1918 годзе падчас Грамадзянскай вайны ў Расіі, калі ў складзе Рускай арміі адмірала Аляксандра Калчака з аўстра-вянгерскіх і нямецкіх ваеннапалонных, што лічылі сябе палякамі, быў створаны 2-гі стралковы полк 5-й польскай Сібірскай дывізіі. Гэты полк змагаўся з чырвонымі, пасля паразы пад Краснаярскам у 1920 годзе праз Манчжурыю эвакуяваўся ў Польшчу, увайшоў у склад Сібірскай брыгады польскага войска і змагаўся супраць бальшавікоў у савецка-польскай вайне 1919–1921 гадоў.

Затым полк атрымаў новы нумар, атабарыўся ў Кобрыне і стаў тэрытарыяльнай вайсковай часткай, што фарміравалася з жыхароў краю, у тым ліку і беларусаў. Напярэдадні Другой сусветнай вайны 83-ці полк быў перадыслакаваны на рубеж ракі Варты, а замест яго ў горадзе з навабранцаў сфарміравалі рэзервовую вайсковую частку пад старым нумарам. Менавіта навабранцы разам са сваімі баявымі сябрамі з 79-га, 82-га і 84-га пяхотных палкоў, сапёрных частак, артдывізіёну і народнага апалчэння склалі дывізію «Кобрынь», што змагалася за горад у верасні 1939-га.

На 83-ці полк была ўскладзена задача бараніць пераправы праз Канал каралевы Боны, 2-гі батальён палка пры падтрымцы 100-міліметровых гаўбіц высоўваўся на захад ад Кобрына па шашы на Брэст. Два дні полк вёў бязлітасныя баі за горад, часам пераходзіў у контратакі і выбіваў нацыстаў з іх пазіцый. У сваім дзённіку адзін з нямецкіх салдатаў, што ўдзельнічалі ў бітве за Кобрын, напісаў: «З нас, бадай што, няма ніводнага, хто б ні аддаў належнае мужнасці і адвазе праціўніка, які бараніў гэты горад». Пра выключную стойкасць яго абаронцаў сведчаць і словы выбітнага нямецкага генерала-танкіста Гейнца Гудэрыяна пра тое, што яго часткам давялося весці цяжкія баі пад Кобрынам.

Сярод загінулых яго абаронцаў было шмат апалчэнцаў у цывільным. У гарадскім парку ляжалі абгарэлыя парэштківайскоўцаў з карабінамі побач. Пры спробе нацыстаў увайсці ў сядзібу гаспадара маёнтка Губерня Тадэвуша Зялінскага, дзе знаходзіўся лазарэт, пан Тадэвуш пачаў адстрэльвацца з паляўнічай стрэльбы, забіў афіцэра, але сам загінуў і быў пахаваны пад ліпай побач з сядзібай.

Адразу пасля баёў за горад кобрынскі ксёндз Ян Вольскі склаў спісы загінулых абаронцаў горада, а мясцовая моладзь пахавала сваіх землякоў у брацкія, групавыя і адзіночныя акопныя магілы. Спіс Яна Вольскага перахавала Арыядна Тэлеман, а яго копію мне перадала кобрынская краязнаўца Ірына Сіманава. Натуральна, у спісе шмат асобаў з беларускімі прозвішчамі.

Калі Чырвоная Армія ў ноч на 17 верасня перайшла савецка-польскую мяжу, абаронцы Кобрына вымушаныя былі пакінуць свой родны горад.

Каля кобрынскага касцёлу Спачыну Найсвяцейшай Панны Марыі перапахаваныя парэшткі 62-х грамадзянаў Другой Рэчы Паспалітай — ахвяраў Другой сусветнай вайны, у асноўным — мясцовых жыхароў. Сярод іх — забітыя польскія дзяржаўныя службоўцы і палеглыя ў баях за Кобрын 17–18 верасня 1939-га жаўнеры і афіцэры Войска Польскага з 83-га пяхотнага палка імя Рамуальда Траўгута.

Знойдзеныя парэшткі былі ўрачыста перапахаваныя каля касцёла пасля раскопак, што ў 2008 годзе пад кіраўніцтвам прадстаўніка Інстытута нацыянальнай памяці Польшчы, прафесара археалогіі Торуньскага ўніверсітэта Анджэя Колы правялі вайскоўцы 52-га асобнага пошукавага батальёну Міністэрства абароны Беларусі.

Паводле асабістых жэтонаў вайскоўцаў і спісу загінулых за горад, што склаў ксёндз Ян Вольскі, былі ідэнтыфікаваныя парэшткі шэрагу абаронцаў гораду — салдатаў Станіслава Матыкі і Людвіка Ліпы, капрала Эварыста Зайкоўскага і афіцэра запасу Тадэвуша Зялінскага.

Перапахаванне было праведзена пасля эксгумацыі і ідэнтыфікацыі парэштКаў 13-ці грамадзянаў Другой Рэчы Паспалітай, пахаваных кобрынцамі на старых каталіцкіх могілках ля Петрапаўлаўскай царквы, а таксама знойдзеных у рове ля могілак вёскі Падзяменне Гарадзецкага сельсавета Кобрынскага раёна. Прычым у апошнім месцы сярод парэштКаў 42-х польскіх вайскоўцаў і цывільных асобаў узростам ад 20 да 55 гадоў былі выяўленыя парэшткі трох жанчын. Яны сталі ахвярамі злачынных дзеянняў пад Кобрынам так званага «атрада самаабароны» Савы Дранюка, які цягам некалькіх тыдняў рабаваў і забіваў польскіх вайскоўцаў, супрацоўнікаў дзяржаўнай паліцыі і мірнае насельніцтва.

Разам з тым, археолагі так і не знайшлі парэшткі многіх палеглых у баі вайскоўцаў 83-га пяхотнага палка імя Рамуальда Траўгута. Гаворка ідзе пра салдат і афіцэраў, якія, паводле высноваў Ніны Марчук, дагэтуль ляжаць у брацкай магіле, арыенцірам якой з'яўляюцца тры старыя дрэвы каля танцпляцоўкі ў гарадскім парку, у закінутых акопных магілах каля Каналу каралевы Боны і пад шашой Мінск–Брэст ля вёскі Буховічы. У апошнім выпадку вядзецца пра месца забойства каля 10-ці афіцэраў штабу.

## Ушанаваць свайго героя

На маё меркаванне, можна было б заснаваць штогадовую Кобрынскую краязнаўчую прэмію імя Рамуальда Траўгута за найбольш выбітныя дасягненні ў справе вяртання культурна-гістарычнай спадчыны краю, праводзіць штогадовыя Траўгутавыя чытанні па выніках апошніх даследаванняў мінулага Кобрыншчыны і Траўгутавы мастацкі пленэр з запрашэннем беларускіх і замежных мастакоў, літаратараў і музыкаў.

Наспеў час вяртаць імя Рамуальда Траўгута ў гарадскую тапаграфію, працягваць даследаванне ўдзелу кобрынцаў у нацыянальна-вызвольных паўстаннях канца XVIII – XIX стагоддзяў, падрыхтаваць тэматычныя маршруты па памятных мясцінах Траўгута, увесці ў візуальнае афармленне гораду выявы нашага героя і яго паплечнікаў, пазначыць мемарыяльнымі шыльдамі месцы, звязаныя са знаходжаннем Траўгута ў Кобрыне, урэшце на гарадской плошчы Свабоды стварыць мемарыял «Абаронцам Свабоды».

Гаворка вядзецца пра тых, чый лёс непасрэдна звязаны з Кобрыншчынай, у тым ліку ўкраінскага паэта Тараса Шаўчэнкі, брата Адама Міцкевіча, беларускага юрыста Аляксандра Міцкевіча, беларускага музыкі і мастака Напалеона Орды, беларускіх польскамоўных пісьменніц Элізы Ажэшка і Марыі Радзевіч, аднаго з айцоў-заснавальнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі Пятра Крачэўскага, першага прэзідэнта Дзяржавы Ізраіль Хаіма Вейцмана, рускага паэта Аляксандра Твардоўскага, кіраўнікоў і ўдзельнікаў нацыянальна-вызвольных паўстанняў 1794 і 1863–1864 гадоў, у тым ліку Тадэвуша Касцюшкі, Рамуальда Траўгута, Фларыяна Ажэшкі, Густава Радавіцкага, Фелікса Ягміна і Уладзіслава Малахоўскага.

Для Кобрына вельмі важны такі мемарыял, бо ён у нейкай ступені можа стаць альтэрнатывай неапраўданаму ўшанаванню ў беларускім месцы памяці расійскага вайскаводцы Аляксандра Суворава, які кіраваў задушэннем нацыянальна-вызвольнага паўстання на чале з Касцюшкам, за што ад Кацярыны II атрымаў чын фельдмаршала і маёнтак Кобрынскі Ключ. І на пачатку XXI стагоддзя ў незалежнай Рэспубліцы Беларусь Кобрын збольшага атаясамліваецца з жыццём і дзейнасцю Суворава, імем якога названая адзіная пешаходная вуліца горада, старадаўні парк і ваенна-гістарычны музей. Палкаводцу прысвечаны экспазіцыі яго сядзібы і музея. Апроч таго, у Кобрыне ўзведзены тры бронзавыя пластычныя кампазіцыі генералісімусу. Празмернае пакланенне горада Сувораву, уведзенае ў Расійскай імперыі і працягнутае за Саветамі, прыніжае нацыянальную годнасць беларусаў і сёння выглядае недарэчным.

# БагатаДата

**Круглая дата Барыса Пятровіча і Дзяржаўнага маладзёжнага тэатра. Іншыя цікавыя даты — у нашым аглядзе.**

### 13 ліпеня

**1889.** У Маскве нарадзіўся Сяргей Нікалаеў, народны мастак БССР. У 1938–1959 гадах афармляў дэкарацыі пастановак



у Дзяржаўным тэатры оперы і балета Беларусі.

### 14 ліпеня

**1994.** У Канадзе памёр беларускі оперны спявак Пётр Конюх. Нарадзіўся ў вёсцы Турэц Карэліцкага раёна на Гродзеншчыне. Пасля вайны, падчас якой Конюх удзельнічаў у бітве пад Монтэ-Касіна і атрымаў за яе ордэн, застаўся ў Італіі, бо ў 1945 годзе атрымаў ваенную стыпендыю на навучанне ў Рымскай акадэміі мастацтваў. У 1955 годзе пераехаў у ЗША. Выступаў у самых вядомых операх свету.



Пётр Конюх

Выкладаў спевы ва ўласных школах. Выконваў і беларускія народныя песні. У 1975 годзе наведаў Беларусь, але ніколі на Радзіме так і не выступіў. Пахаваны ў ЗША на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку, дзе яшчэ пры жыцці набыў участак.

### 15 ліпеня

**1874.** Пачаўся скразны рух па Лібава-Роменскай чыгунцы — ад Лібавы ў Латвіі да Ромнаў на Украіне. У тым ліку праз Мінск.

### 16 ліпеня

**1944.** У Мінску адбыліся шматтысячны мітынг жыхароў і парад партызанаў з нагоды вызвалення горада ад фашыстаў.

**1959.** У Маскве памёр беларускі савецкі архітэктар родам з Пінска Іван Жалтоўскі. Браў удзел у аднаўленні Гомеля пасля Другой сусветнай вайны, а ў Маскве яго працы — дом Тарасава на Спірыдонаўцы, дом Скакавога таварыства на Бегавой, будынкі Першай сельскагаспадарчай выставы, будынак Дзяржбанку, шэраг жылых будынкаў, званых як «дамы Жалтоўскага».



Барыс Пятровіч (Сачанка)

**1964.** Ва ўкраінскім Днепры нарадзіўся Вадзім Зайцаў, былы старшыня КДБ Беларусі (2008–2012 гады). Быў адхілены ад пасады ў сувязі з расследаваннем забойства аднаго з супрацоўнікаў гэтай спецслужбы. Цяпер — гендырэктар тэлекамунікацыйнай кампаніі «Космас ТБ».

**1969.** У Гродне нарадзіўся гандбаліст Андрэй Мінеўскі, алімпійскі чэмпіён 1992 года ў складзе аб'яднанай каманды СНД.

### 17 ліпеня

**1924.** У БССР быў уведзены новы тэрытарыяльна-адміністрацыйны падзел. З'явіліся 10 акругаў, якія аб'ядналі 100 раёнаў. Акругі былі такія: Бабруйская, Барысаўская, Віцебская, Калінінская (была на Магілёўшчыне), Мінская, Магілёўская, Мазырская, Аршанская, Полацкая, Слуцкая.

**1959.** У вёсцы Вялікі Бор Хойніцкага раёна на Гомельшчыне нарадзіўся пісьменнік, заснавальнік часопіса «Дзеяслоў», старшыня Саюзу беларускіх пісьменнікаў Барыс Пятровіч (Сачанка).

### 18 ліпеня

**1909.** У вёсцы Старыя Грамыкі Веткаўскага раёна на Гомельшчыне нарадзіўся Андрэй Грамыка, легендарны міністр замежных спраў СССР цягам 28 гадоў. На Захадзе Грамыка атрымаў мянушку «Mr. Nyet» («Містэр Не») за адмысловы стыль вядзення перамоў. Паводле самога Грамыкі, ён зрабіў падчас палітычнай кар'еры дзве памылкі — пагадзіўся на ўвядзенне савецкіх войскаў у Афганістан і, як вялікі аўтарытэт, рэкамендаваў Міхаіла Гарбачова на пасаду кіраўніка СССР. Андрэй Грамыка гаварыў з беларускім акцэнтам.



Дзяржаўны маладзёжны тэатр

**1984.** Створаны Дзяржаўны маладзёжны тэатр.

**1989.** Пастановай Савета міністраў БССР быў заснаваны Ліцэй БДУ. Гэта была першая навучальная ўстанова новага тыпу ў нашай краіне.

### 19 ліпеня

**1869.** У вёсцы Дубейкава Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобласці нарадзіўся Лявон Вітан-Дубейкаўскі, грамадска-палітычны дзеяч, архітэктар. Быў галоўным урадавым архітэктарам БНР, яе консулам у Польшчы. Праектаваў царкву ў Відзах і касцёл у Друсвятах. Будаваў кляштар пад Варшавай і мікраёна на Антокалі ў Вільні.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1081

Падпісана да друку 12.07.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.